# Зьмест.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 10—11 Кастрычнік—Лістапад 1925 г. № 10—11



## Калі агрономы падвояць ураджаі БССР.

*(Да 8-й гадавіны „Кастрычніка“)*

Адна з галоўных адзнак соцыялістычнай гаспадаркі—гэта поўны падлік і вучот. Падлічвацца павінна ўсё, як патрачаныя сродкі, так і тое, што абяцае нам кожны практычны крок. Тое-ж мы бачым і ў сельскай гаспадарцы. Для яе адбудовы і разьвіцьця Савецкая ўлада траціць значныя сродкі. Мы бачым, як з кожным годам усё шырэй і больш здавальняюцца патрэбы сялянскай гаспадаркі ў машынах, сартовым насеньні, угнаеньнях і г. д. Таксама ўзмацняецца і расьце с.-г. коопэрацыя з усімі яе спэцыяльнымі відамі (малочнай, збытавой, крэдытовай, тарговай і г. д.). Ролю-ж крэдыту адзначаю асабіста. Ён дае нормальнае разьвіцьцё гаспадарцы і захоўвае маламоцнае і серадняцкае сялянства ад вядзеньня стратнай гаспадаркі і кабалы.

Або яшчэ прыклад. З кожным годам дзяржава павялічвае лік агрономаў, каб яны праводзілі агрыкультурную дапамогу сялянскай гаспадарцы. Агрономы пашыраюць с.-г. веды, уводзяць лепшыя формы гаспадаркі, дапамагаюць ёй скарыстаць крэдыт і ўсе формы дзяржаўнай і коопэрацыйнай дапамогі.

Усе гэта мае пэўны падлік і вельмі бачныя выгады. Усе патрачаныя сродкі дзяржавы ня гінуць, як падачка гультаю, а яны зьяўляюцца асновай, на якой расьце гаспадарчая самадзейнасьць сялянства. Напрыклад, на падставе крэдыту гаспадарка купляе лепшае насеньне, машыны і ўзмацняецца, лёгка зьвяртае крэдыт і далей працуе сама. Або: малочная арцель ці мэліорацыйнае таварыства, палучыўшы крэдыт, далучае сваю працу і сродкі, пачынае выгадную справу і хутка ўздымае гаспадаркі сваіх членаў.

Такім чынам, Савецкая дзяржава траціць пакуль што свае бедныя капіталы на ўзмацненьне сельскай гаспадаркі, траціць іх на жывую справу і з вучотам выгад. Пры такіх умовах сельская гаспадарка ўзмацняецца, прымае коопэрацыйныя і колектыўныя формы. Разам з гэтым расьце культурнасьць сялянства. Яно лепш вывучае і хутчэй пераходзіць да больш даходнай (інтэнсыўнай) гаспадаркі.

Пры плянавай дапамозе гаспадарцы дзяржаваю, пры ўцягненьні сродкаў сялянства і цэлага шэрагу агульных спрыяючых умоў (свой і замежны гандаль, разьвіцьцё гарадзкой прамысловасьці і г. д.) наша сельская гаспадарка будзе палепшвацца. *Гэткая сувязь Соцыялістычнай дзяржавы* з *сельскай гаспадаркай.*

Францыя падвоіла свае ўраджаі к дзесяцёхгодзьдзю Вялікай Францускай рэволюцыі. Нам-жа трудна сказаць, калі мы падвоім свае ўраджаі і што зробім к 10-й гадавіне Кастрычніка. Вельмі ужо бедна, някультурна і разбурана была сельская гаспадарка БССР у час вайны і да вайны.

Аднак, не рызыкуючы можна зазначыць, што к 10-й гадавіне Кастрычніка і нашым зямельным працаўнікам у выключных выпадках удасца паўтарыць гісторыю францускай агрономіі, г. зн. узьняць сярэдні ўраджай на 80—90 пуд.

У першую чаргу гэтага дасягнуць тыя раёны, дзе сельская гаспадарка і да вайны была палепшанай (знала агронома, сартовае насеньне, мінэральныя гнаі, завадзкога быка і г. д.), або дзе прашло ўжо 2-3 гады пасьля земляўпарадкаваньня і данадзяленьня сялян зямлёю пры Савецкай уладзе.

Тыя-ж раёны, дзе земляўпарадкаваньне і пераход да пладазьмену толькі цяпер праводзіцца або пачынаецца, яны зробяць менш, але шмат ранейшых тормазаў сельскай гаспадаркі (трохпалёўка, бездаходная жывёла і г. д.) адкінуць далёка назад.

Вельмі коратка зраблю адно параўнаньне Сьмілавіцкага раёну (Меншчына) з Лельчыцкім (Мазыршчына). [1]).

У Сьмілавіцкім раёне за гэта лета агрономы перавялі на пасёлкі і пладазьмен 253 гаспадаркі вёскі Жораўкі на плошчы 2500 дзес. З Жораўкі організавана 10 пасёлкаў. На месцы старой вёскі застаецца толькі некалькі пасёлкаў (сяліб). Пры земляўпарадкаваньні праведзена абрэзка кулацкіх гаспадарак і скарыстана 300 дзес. з зямельнага фонду дзяржавы.

Пасьля доўгіх гутарак агронома, спрэчак і падлікаў сялян у пасёлках заснаваны пяцёхпалёвы пладазьмен з занятым папарам і цэлым полем бульбы (20 проц.) [2]).

Апрача гэтай вёскі, падгатоўчая праца распачата яшчэ ў 21 вёсцы (цэлых два сельсаветы—Драчкаўскі і Пятровіцкі), якія складаюць каля 35 проц. раёну. Упарадкаваньню падлягае 10.000 дзес. зямлі, ня лічачы зямельнага фонду, які дадаецца малазямельным).

Пасьля такіх мерапрыемстваў вёска Жораўка дый іншыя вёскі 2-х сельсаветаў хутка прыдуць да ўраджаю ў 90—100 пуд. на дзес.

Зусім іншы малюнак выяўляе Лельчыцкі раён (Мазыршчына). Земляўпарадкаваньне не пачыналася. Сяляне ня маюць нават і трохпалёўкі. Збожжа сеецца на адным месцы некалькі год. Пасьля вайны і рэволюцыі сяляне кінулі частку сваёй зямлі і пачалі выробляць і засяваць зямлю з-пад лесу.

Гэта дало ім ураджаі нават большыя, чым ураджаі 1913-14 г. Але гэтыя ў лепшым выпадку высокія ўраджаі (50—60 пуд.) [3]) могуць хутка зьнізіцца, бо жывёлагадоўля і лікам, і якасьцю падупала. На раёне ёсьць адзін пародзісты бык і ніводнага жарабка. Сырыя сенажаці, выганы і балоты чакаюць мэліорацыі[4]). Садоўніцтва і гародніцтва толькі пачынаюць цікавіць сялян.[5]) Лепш захавалася пчалярства.

Наогул-жа Лельчыцкаму раёну ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі трэба шмат што зрабіць, многае абмінуць і перайці адразу да пладазьмену, засеву траў, корняплодаў, палепшанай мясной і малочнай жывёлагадоўлі, пачаць мэліорацыю разам з земляўпарадкаваньнем і г. д.

Вось чаму для Лельчыцкага раёну, калі з акрэсьленага і частка будзе зроблена к 10-й гадавіне Кастрычніка, то і гэта будзе там значным посьпехам у барацьбе за падвойны ўраджай.

**Сьц. Тупяневіч.**

---

[1]) Першы раён больш культурны, а ў другім агрономічная праца пачалася з 1925 г.

[2]) У раёне і блізка в. Жораўкі працуюць 3 крухмальні (Цытва, Зазер'е, Гуркі) і 1 бровар (Ляды).

[3]) Личбы вучастковага агронома. (С. Т.).

[4]) У раёне пахаці 40.667 дзес., сенажаці 39.417 дзес., лесу і кустоў 101. 84 дзес., выгану 5.404 дзес. і балота 49.054 дзес.

[5]) У раёне 26 дзес. садоў.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## II-я выстаўка ў Асіповічах.

(*Бабруйшчына*).

Да дню „Сьвята ураджаю“ сёлета ў нас вялася вялікая падрыхтоўчая праца. 20 верасьня па ўсіх сельсаветах былі праведзены шырокія сялянскія конфэрэнцыі.

Рыхтаваліся да II-й сельскагаспадарчай выстаўкі. Сёлета пад яе адведзена лепшае памяшчэньне—Нардом. Для жывёлы зроблены спецыяльныя конавязі.

13 кастрычніка, напярэдадні сьвята, праца кіпела. Усюды пабачыш вока райагронома Сяргейчыка. У гэты дзень ён апрача выстаўкі ні абчым ня гутарыць. Выстаўка гэта—яго астатня справа бо зараз ён ад‘яжджае ў Горкі.

Вечарам 13-го адбыліся сходы сяброў саюзаў, дзе зроблены даклады аб значэньні выстаўкі і сучасным становішчы сельскай гаспадаркі. Затым у пажарным дэпо адбыўся спэктакль, на якім было шмат сялян з ваколічных вёсак.

Вось і 14 кастрычніка. З раніцы ў мястэчка наехала шмат сялян, нават з самых далёкіх вёсак. Вуліцы напоўнены натоўпам людзей.

Адкрываецца ўрачысты мітынг. Пад гукі інтэрнацыяналу ўздымаецца сьцяг—выстаўка адкрыта.

Вітаюць сялян прадстаўнікі ўсіх устаноў і організацый.

Пасьля мітынгу пачаўся агляд выстаўкі. Народу так шмат, што ў Нардом нельга папасьці; аглядаем знадворку. Вось павільён коопэрацыі; жвава ідзе гандаль—тут ёсьць усё неабходнае. Далей павільён Лесбелу. Выстаўлена на агляд продукцыя лесу. Лесапрамысловая арцель паказвае абодьдзі калёсы і інш. Яшчэ лепей паказана народная сувязь (пошта); вялікі, пекны павільён яе відаць здалёк і харошыць выстаўку сваім выглядам. У ім ідуць усе



Адчыненьне с.-г. выстаўкі ў Асіповічах.

паштовыя опэрацыі. Тут-жа прадаюцца кнігі, газэты. Па ўсей выстаўцы наладжана тэлефонная сувязь.

Падходзім да аддзелу жывёлагадоўлі; калі летась было коняў і кароў 61 шт., то сёлета іх толькі 49 шт. Але гэта ня тыя экспонаты, што былі летась. Яны значна лепшыя; сяляне ўжо зразумелі сэнс выстаўкі і паказваюць найлепшае, што маюць. Таксама лепшыя сьвіньні і пташніцтва.

Ледзь праціскаемся ў Нардом. Вось аддзел расьлінаводзтва. Экспонатаў летась было 205, сёлета толькі 79, але і тут іншы выгляд.



Раённы агроном П. Сяргейчик.

Лепшыя сарты збожжа, гародных расьлін. Калі ў мінулым годзе капуста была добрая толькі ў сяброў дзіцячага клюбу, дык сёлета яна добрая і ў сялян-гаспадароў. Прыклад мінулай выстаўкі і парады агронома зрабілі сваё.

Ёсьць шмат корняплодаў, (вялікі турнэпс, буракі, морква). Будучыня гэтай галіны сельскай гаспадаркі ў нашым раёне забясьпечана.

Ёсьць экспонаты пчалярства. Гэта вынікі працы пчалярнага таварыства.

Вось павільён жаночай вытворчасьці. Летась тут было 24 экспонаты, а сёлета 249. Раён наш бедны глебай, багаты малазямельлем; прыбытку гаспадарка дае мала, дзеля гэтага патрэбныя тканіны ў большасьці вырабляюцца хатнім спосабам.

Гэты аддзел поўны публікі. Усе цікавяцца, усе дзівяцца: „Ці сапраўды гэтыя мастацкія рэчы вырабляе сялянская жанчына?“

Надыходзіць вечар. Комісія раздае прэміі. Раздана 7 прэмій 1-га разр. (плугі), 4—другога і 13—трэцяга (хатнія і сельскагаспадарчыя прылады). Выдана 35 пачэсных дыплёмаў.

Па жывёлагадоўлі прэміравана 7 гаспадароў, па расьлінаводзтву—7 і 10 па саматужнай прамысловасьці. На прэміі пашло да 300 руб., а летась толькі 90 руб.

Праз выстаўку прапушчана да 5000 асоб. У часе выстаўкі праз кіно чугуначнікаў прашло дарэмна 1300 сялян. Вечарам у чугуначным клюбе адбыўся сход сялян, на якім райагроном Сяргейчык падагульніў вынікі выстаўкі і абмаляваў становішча сельскай гаспадаркі раёну.

Трэба сказаць, што тав. Сяргейык наладзіў працу агрономіі ў нашым раёне. Яе вынікі відаць ужо на кожным кроку. Нажаль, ён хутка выяжджае з нашага раёну, пакідаючы шэраг распачатых і няскончаных прац у вёсцы. Сяляне выказалі яму шчырую падзяку.

З адмоўных бакоў выстаўкі я заўважыў толькі адзін: кароткі час выстаўкі; ў працягу 7-8 гадзін нельга было добра ўсе агледзіць. Не змаглі папасьці на яе і рабочыя, якіх у нас ня мала і якія працавалі на вытворчасьці ў дзень „Сьвята ўраджаю“. Трэба, каб у наступным годзе выстаўка цягнулася дні два-тры.

Наогул-жа выстаўка паказала вялікія дасягненьні сельскай гаспадаркі за мінулы год і зьяўляецца моцным грунтам і верным шляхам у далейшае.

**Ф. Шынклер.**

---

# С.-г. выстаўка ў Падблоні.

*(Пухавіцкі раён, Меншчына).*

У дзень „Сьвята Ураджаю“, 14 кастрычніка г. г. ў савецкай гаспадарцы „Падблонь“ адбылася раённая с.-г. выстаўка з аддзеламі паляводзтва, садоўніцтва, гародніцтва і саматужнай прамысловасьці.

На выстаўцы было паказана 570 экспонатаў. Выставілі экспонаты 79 сялянскіх гаспадарак, 5 савецкіх, комуна „Звезда“, сельска-гаспадарчая і спажывецкая коопэрацыя.

Перад адчыненьнем выстаўкі быў організаваны карнавал, які з Марына-Горскага с.-г. тэхнікуму накіраваўся на кірмаш, у сяло Навасёлкі, дзе адбыўся шматлюдны мітынг на розныя с.-г. тэмы.

А 12 гадзіне карнавал прышоў у Падблонь на месца выстаўкі, дзе зараз выстаўка і была адчынена. Сабраўшыхся сялян віталі са „Сьвятам Ураджаю“ розныя організацыі. Агроном, прадстаўнік НКЗ Беларусі, пералічыў дасягненьні БССР у сельскай гаспадарцы за мінулы год, а прадстаўнік Менскага Акрза, тав. Катляр абмаляваў дасягненьні сельскай гаспадаркі па Менскай акрузе. Ад сялян гаварылі сяляне Карнейчык і Пархомчык.

Зранку да адчыненьня выстаўкі працавала экспэртная комісія па агляду экспонатаў для выдзелу самых лепшых на прэміі. Прэміяльны фонд складаў 200 руб., якія комісія вырашыла выдаць сялянам за лепшыя экспонаты ў гэткім парадку: 1 прэмія—30 руб., 2—па 25 руб., 3—па 15 руб., 4—па 10 руб., 6—па 5 руб. і 10—па 3 руб. Усяго—25 прэмій. Апрача гэтых прэмій, выданы ганаровыя дыплёмы лепшым савецкім гаспадаркам, комуне, с.-г. коопэр. т-ву і заможным сялянам.

Вялікую ўвагу зьвярнула комісія на экспонаты сеяных траў і корняплодаў, якія ўжываюцца толькі пры шматпольных севазваротах.

Тры першыя прэміі выданы тым сялянам, якія паказалі свае гаспадаркі, як узорныя і лепшыя ў раёне. Такімі перадавікамі на выстаўцы былі сяляне *Карнейчык* з хут. Сарачынаў, Навасёлкаўскага с/с., *Каток* з хут. Бабка, Блонскага с/с. і *Езубчык* з в. Баравая Слабада. Іх экспонаты адрозьніліся ня толькі на выстаўцы, але яны лічацца і лепшымі гаспадарамі (не па заможнасьці, а па лепшым спосабам вядзеньня гаспадаркі). Калі паглядзець апісаньні іх гаспадарак, то відаць, што яны ўжываюць пяці і васьміпалёвыя севазвароты, сеюць на полі корняплоды, даволі шмат кармовых траў (канюшына, выка і сэрадэля). Маюць яны і чыстае сартовае і добрай якасьці насеньне. Пры кожнай гаспадарцы ёсьць сад, садовая школка і гарод. У іх адрозьніваецца і жывёлагадоўля, як па выгляду, так і па палепшаньню пароды. Наогул, гэтыя сяляне зьяўляюцца перадавікамі і толькі ў сельскай гаспадарцы, але і ў грамадзкай справе (актыўна працуюць у сваіх с/с).

Трэба таксама адзначыць добра выглядаўшыя экспонаты селяніна Гарбуза з в. Ананічы, Пудзіцкага с/с. Ён паказаў гародныя расьліны— капусту, буракі, моркву і бручку. (Качан капусты важыў 10 кілёгрма Пры недахваце зямлі селянін Гарбуз ужо даўно перайшоў ад палявых расьлін к гародным і ў гэтым кірунку зьяўляецца першым піонэран у раёне.

Комісія ўзяла гэта пад увагу і прызначыла сел. Гарбузу ня толькі грашовую прэмію, але і дыплём 1-й катэгорыі.

Апрача сялянскіх экспонатаў, на выстаўцы было шмат экспонатаў Марына-Горскага с.-г. тэхнікуму, савецкіх гаспадарак і комуны „Звезда". Усім ім прызначаны дыплёмы 1-й катэгорыі за агульную культурнасьць гаспадарак.

Выстаўка зачынілася позна ўвечары; да гэтага часу экспонаты аглядзела каля 2.300 чалавек сялян, большасьць якіх складала сялянская моладзь. Але было шмат і старых гаспадароў, якія вельмі ўважліва аглядалі экспонаты і слухалі тлумачэньні агронома і вучняў Марына-Горскага с.-г. тэхнікуму.

З асаблівай увагай тысячны натоўп сялянства слухаў прамовы сваіх гаспадароў Карнейчыка і Пархомчыка. Гэтыя два селяніна абмалявалі тыя шляхі, якімі яны вялі свае гаспадаркі. Лепшымі іх настаўнікамі былі *кніга, агроном, прыклады другіх* сялян.

Выстаўка зачынілася раздачай прэмій. Наогул, выстаўка вельмі зацікавіла сялян.

П. Заяц.

---

# Дзень „Сьвята ўраджаю" ў Стара-Барысаўскім раёне.

С.-г. выстаўка ў „Дня ўраджаю" ў Стара-Барысаўскім раёне была разьмяшчана каля Варанецкага с.-г. тэхнікуму і цягнулася два дні 14 і 15 кастрычніка. Дрэнная пагода перад гэтымі днямі перашкаджала дастаўцы экспонатаў і часткаю зьменшыла наплыў сялян.

С.-г. характар выстаўкі выяўлялі выстаўленыя 26 шт. коняй і 40 галоў буйнае рагатае скаціны, а з боку паляводзтва—каля 100 розных расьлінных экспонатаў. Гэты невялікі лік экспонатаў папаўняў

Варонецкі с.-г. тэхнікум, які прадставіў мэліорацыйныя прылады, с.-г. машыны (трактар, трыер, жняярку, снопавязку, плугі, бароны і інш.), садовые прышчэпы і племяных сьвіней. Трэба сказаць, што Варонецкі с.-г. тэхнікум увесь цалком можа зьяўляцца экспонатам, бо ён сьведчыць, як быўшы панскі маёнтак сіламі вучняў стаў вучэбнай гаспадаркай пры с.-г. школе.

Выстаўка адчынілася ў поўдзень 14 кастрычніка. Сярод прамоўцаў вельмі цікавымі былі словы прадстаўніка сялян т. Гарбача.

Яго вопыт, як селяніна-культурніка, і пэўная сьвядомасьць у сельскай гаспадарцы надавалі прамове асаблівую вартасьць.

Пры аглядзе экспонатаў комісія зьвярнула ўвагу прысутных на цэлы шэраг дасягненьняў у сельскай гаспадарцы раёну. З экспонатаў паляводзтва ўпершыню зьяўляецца *сэрадэля.*

Гаспадары, якія сеялі сэрадэлю, надта здаволены яе ростам і кармовай вартасьцю. Ды й снопікі сэрадэлі сьведчылі аб яе буйным развіцьці. Ураджай пробных вучасткаў у пералічэньні на дзесяціну дае 300-400 пуд. сена.

Другая расьліна, якая пракладвае сабе шлях на палёх Барысаўскага сяляніна,—гэта лубін, з якім толькі ў мінулым годзе пачалі рабіць спробы. Цяпер ім зясяваецца ўжо звыш дзьвёх тысяч дзесяцін.

Абразцы лубіну 5-6 гаспадарак на выстаўцы былі прадметам жывой пропаганды і лепшымі прыкладамі актыўнай працы вучастковага агронома тав. Герасімава.

Трэцяй новай для раёну расьлінай былі корняплоды. Відаць, сяляне ўжо ацанілі і гэту расьліну для зьнішчэньня бяскорміцы.

Умацаваўшыхся расьлін, як канюшына, на выстаўцы ня было.

Рэшта экспонатаў паляводзтва (жыта, пшаніца, лён (валакно), выка, авёс і інш.) былі сярэднімі.

Жывёлагадоўля ў раёне напэўна стаіць вельмі нізка, бо сярод коняй і малочнай скаціны нельга было знайці што-небудзь больш-менш палепшанае.

Мала ўвагі было і сялянскім каровам і коням; ня было на выстаўці і сьвіней, апрача сьвіней с.-г. тэхнікуму.

Была толькі адна сялянскя сьвіньня, якую тут-жа і судзілі. Судзілі самую звычайную сьвіньню, якая разводзіцца ў раёне. У тры гады яна важыла каля 5 пудоў і дала гаспадару ўбытку да 40 руб., за што і была прысуджана к страце праў на далейшае жыцьцё. Гаспадар жа гэтай сьвіньні, зрабіўшы шмат памылак у кармленьні і доглядзе, прызнаны быў вінаватым і для правільнай узгадоўлі *новай сьвіньні* атрымаў добрае завадзкое парася.

Гэта парася ён павінен даўжэй трымаць на малочным корме, даваць бабовую дзерць, высеўкі, канюшыну, буракі і малочныя адкіды; трымаць у цёплым хлеве, а летам на добрай пашы. Гэта сьвіньня пры лепшых умовах напэўна дасьць даход.

На другі дзень экспонаты выстаўкі аглядаліся чырвонаармейцамі і вучнямі сямёхгодак.

Усе дасягненьні і лепшыя прыклады стараннай працы сялян у гаспадрцы былі адзначаны прэміямі. Прэмій раздана на 350 руб.

Тыя сотні людзей, якія пабывалі на выстаўцы, бачылі, якую увагу пашану выклікае да сябе сялянская палепшаная гаападарка.

П. Ластоўскі.

# С.-г. выстаўкі Меншчыны.

## Астрашыцкі Гарадок.

Раён даволі глухі. С.-г. пропаганда раней была мала пашырана. У раёне восеньню 1924 г. была толькі адна с.-г. выстаўка па жывёлагадоўлі. Выстаўка г. г. была ўжо другой; к яе адкрыцьцю сабралася да 2 тыс. чалавек сялян. Усіх экспонатаў было каля 90 шт., сярод якіх некалькі адобраных вытворнікаў (быкі, жарабкі).

Сярод экспонатаў палявой гаспадаркі значны лік быў кармовых корняплодаў. Самы высокі ўраджай збожжа паказаў селянін вёскі Дускава, Рыгор Дзядзюля *(жыта 110 пуд., авёс 140 пуд. на дзес.)*. Гэты селянін сам завёў шматпольны севазварот і ужо некалькі год праводзіць яго. Тут-жа на выстаўцы, на невялічкім вучастку быў разьбіты севазварот Р. Дзядзюлі і яшчэ аднаго селяніна—Валежыка. Паказвалі севазвароты і ацэньвалі іх выгады самі гаспадары (Дзядзюля і Валежык). Як тлумачэньнямі гаспадароў, так і новымі севазваротамі сяляне былі вельмі зацікаўлены. Таксама цікавіліся ўсе і гутаркай селяніна Салаўя з вёскі Макі, які на мітынгу абгаварыў значэньне машыннага таварыства, у якое ён уваходзіць разам з другімі сялянамі, і што гэта таварыства дае сялянству.

У канцы выстаўкі было раздана прэмій на 200 руб. Першую прэмію атрымаў Рыгор Дзядзюля. Наогул-жа выстаўка паказала сялянству, што з дапамогай агронома, коопэрацыі, крэдыту і г. д. яно можа шмат што зрабіць у сваёй гаспадарцы. **М. Сьцяпура.**

## Самахвалавіцкі раён.

Экспонаты выставілі 70 гаспадарак: адна па садоўніцтву (плямхоз Калініна), а рэшта па гародніцтву і палявой гаспадарцы. Тут былі паказаны снапы і насеньне сартовага і мясцовага палепшанага жыта, пшаніцы, снапы і насеньне сэрадэлі, белай швэцкай канюшыны, корняплоды. Усе пералічаныя расьліны, як сэрадэля, канюшына, лубін, не зьяўляюцца ўпершыню ў гэтым раёне. Загэтым, ад гаспадарак гэтых экспонатаў вымагаліся больш высокія ўраджаі і культурныя спосабы вядзеньня гаспадаркі. Корняплоды ў большасьці былі паказаны з прысялібных вучасткаў.

Па гародніцтву была паказана капуста (24-26 фун. качан), брука (12 фун.), морква, рэдзька, боб, гарбузы.

Усіх прэмій раздана на 200 руб. Выдаваліся плугі (аднаконныя № 0 і № 1), малочныя прылады і наборы садовых інструмантаў. Усяго прэміравана 21 сялянская гаспадарка і выдана 13 ганаровых дыплёмаў.

## Койданаўскі раён.

Экспонаты выставілі 80 гаспадарак і організацый, сярод якіх былі сялянскія гаспадаркі, Койданаўскае с.-г. крэдытовае т-ва (гародніцтва), дзіцячыя с.-г. клюбы, польская сямёхгадовая школа, ячэйка ЛКСМ і савецкія гаспадаркі Ружамполь, Навасёлкі, Нявелічы і Фаніполь (палявая гаспадарка і гародніцтва).

Сялянскія гаспадаркі паказвалі экспонаты паляводзтва, гародніцтва і хатнія вырабы. Лепшымі экспонатамі трэба лічыць у сялян— па палявой гаспадарцы (ураджаі збожжа, лубін, сэрадэля, канюшына), у клюбнікаў—гародныя расьліны.

Усіх прэмій раздана на 305 руб.*). У прэміях было раздадзена сялянам і клюбнікам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| плугоў . . . | 12 штук | кос . . . . . | 17 штук |
| садов. прылад. | 3 комп. | сярпоў . . . . | 16 „ |
| малочн. „ . | 6 „ | віл жалезных . | 10 „ |
| лапат . . . . | 10 штук | бібліотэк . . . | 1 „ |

Месца для выстаўкі было далёка ад цэнтру мястэёка і загэтым яна, пэўна, страціла частку сялян, якія не маглі агледзіць яе.

**М. Канавальчык.**

# С.-г. выстаўкі ў Калінінскай акрузе.

У Крычаўскім, Чэрыкаўскім і Расьнянскім раёнах выстаўкі мелі с.-г. характар з аддзеламі хатніх вырабаў. Выстаўкі адбыліся ў дні кірмашу і былі вельмі многалюднымі. На кожнай выстаўцы ў сярэднім было каля 60 экспонатаў; сярод іх паказвалася і жывёлагадоўля. У жывёлагадоўлі прэміраваўся толькі добры маладняк і вытворнікі (жарабкі і быкі). Лепшых жарабкоў паказаў Расьнянскі раён, дзе было прэміравана 8 жарабкоў з крывёю ардэна і норвэга. Простых сялянскіх кароў на выстаўцы было мала. Большасьць іх (70 проц.) складалі каровы мэтысы-швіцы. Быкі-ж паказваліся толькі швіцкай пароды. У Крычаўскім раёне былі дзьве каровы з удоем малака 300 вед. у год. Вельмі цікава, што гаспадар гэтых кароў мае ўсяго 2 дзес. зямлі і ўсе свае звароты робіць за прададзеныя продукты малака і сьвінагадоўлі.

Сьвінагадоўля, як відаць, мае значэньне ў кожным раёне. У сялян ужо многа культурных сьвіней (белай ангельскай пароды), якія разьведзены тут з сьвіней Энгэльгардтаўскай с.-г. дасьледчай станцыі. Сярэдняя вага сьвіньні ў 5,5 мес. 5 пуд. 10 фун.

У палявой гаспадарцы на Крычаўскай выстаўцы паміж іншых расьлін быў паказаны лубін (снапы і насеньне). Гэта расьліна ў Калініншчыне зьяўляецца новай. Сеюць яго ў Крычаўскім раёне толькі 68 гаспадарак. Зацікаўленасьць сялян лубінам значная. Таксама атрымаў прэмію і селянін, які ў палявой гаспадарцы меў адну дзес. корняплодаў (усёй зямлі $1^1/_2$ дзес.).

Па пчалярству першую прэмію атрымаў селянін м-ка Крычава, які зьяўляецца вельмі культурным пчаляром. У мінулым годзе ён вырабіў штучнай вашчыны 20 пуд.

Адзін селянін быў прэміраваны за пасеў люцэрны, якую ён сее ўжо 7 год і мае ўраджаі 300 пуд. з дзес.

Выстаўка ў Расьне была вельмі багата хатнімі вырабамі жанчын (хусткі. коўдры, рушнікі, палатно, лён) і вельмі багатым аддзелам па агродапамозе вёсцы.

**К. Паніна.**

*) У складаньні прэміяльнага фонду прымалі ўдзел Райвыкапком, спажывецкая коопэрацыя, с.-г. крэдытовае таварыства, Комітэт узаемадапамогі, Комхоз, Хлебапродукт, саўхоз Навасёлкі.

# Першае выступленьне дзяцей-клюбнікаў на сельска-гаспадарчых выстаўках у дзень „Сьвята Ўраджаю“.

Дзеці-сябры с.-г. клюбаў—гэта маладыя бунтары на вёсцы за лепшую гаспадарку.

У мінулым нумары часопісі „Плуг“ у агульных рысах было вызначана, што ўяўляюць сабою дзіцячыя с.-г. клюбы і як дзеці-клюбнікі рыхтаваліся да „Сьвята Ўраджаю“. Зараз мы розгледзім у чым, выявіўся ўдзел дзяцей на с.-г. выстаўках.

Галоўным цэнтрам дзіцячых с.-г. клюбаў зьяўляецца Койданаўскі раён (падшэфны раён б. Менскага с.-г. інстытуту), дзе організавана было вясной бягучага году сем клюбаў.

Дзеці-клюбнікі да раённай с.-г. выстаўкі ў мяст. Койданаве добра падрыхтаваліся і 14 кастрычніка прадстаўнікі ад кожнага клюбу ў агульным ліку 25 асоб зьявіліся на выстаўку са сваімі экспонатамі па гародніцтву.



Экспонаты сялян і дзяцей—клюбнікаў на с.-г. выстаўцы ў Койданаве.

Паказаны імі былі гэткія экспонаты: буракі сталовыя і кармовыя, морква сталовая і кармовая, турнэпс, капуста і гарбузы. Калі экспонаты клюбнікаў былі раскладзены, то адразу было відаць, што з боку якасьці і колькасьці яны займаюць першае месца на выстаўцы з агульнага ліку ўсіх экспонатаў па гародніцтву.

Поруч з экспонатамі клюбнікаў знаходзіліся экспонаты і іх бацькоў, так што была дадзена поўная магчымасьць параўнаць дасягненьні адных і другіх. З належнай увагай да ацэнкі экспонатаў клюбнікаў аднеслася і экспэртная комісія, якая прэміравала 20 клюбнікаў (з агульнага ліку 25 ўдзельнікаў).

У прэміі клюбнікі атрымалі—5 жалезных плугоў, наборы садовага і малочнага інвэнтару, косы, сярпы і г. д. Застаўшыхся 5 клюбнікаў прэміравалі шэфстудэнты б. Менскага с.-г. Інстытуту, наборамі садовага і гароднага інвэнтару і с.-г. літаратурай.

Зусім зразумела, што посьпех клюбнікаў ня мог не зрабіць пэўнага і добрага ўражаньня на дарослае жыхарства. У бацькоў некаторых клюбнікаў яшчэ ў час летняй працы дзяцей зьявілася зацікаўленасьць, каб папрабаваць на сваіх палёх культуру корняплодаў. Шмат хто з іх для гэтай мэты ўжо вызначылі і падрыхтавалі поле.

З няменшым посьпехам, але ў больш вузкім маштабе прашла мясцовая клюбная с.-г. выстаўка пры Барысаўскай сямёхгодцы чугуначнікаў (Нова-Барысаў). Тут быў організаваны адзін клюб, у склад якога ўваходзілі 16 вучняў, галоўным чынам, малодшага ўзросту. Дзеці-клюбнікі з пачатку вясны і да самай восені адносіліся з вялікім стараньнем да выкананьня сваіх заданьняў ад клюбу і, нягледзечы на цэлы шэраг усялякіх перашкод, усё-ж дасягнулі зусім добрых вынікаў. Тут, таксама, як і ў іншых клюбах, дзеці былі зусім падрыхтаваны да спатканьня дню „Сьвята Ўраджаю“ і 14 кастрычніка ўсе прынесьлі ў сваю школу гародніну, узрошчаную на сваіх градках.

У школе быў прыгожа абсталяваны куток, дзе першы раз занялі сваё месца экспонаты клюбнікаў (*капуста, буракі, морква і гуркі*).

Выстаўка была адчынена на працягу двох дзён для вучняў і дарослага жыхарства. На адчыненьні выстаўкі зроблены былі даклады аб дні „Сьвята Ўраджаю“, аб значэньні і ролі дзіцячых с.-г. клюбаў і даклады самых клюбнікаў.



Сяляне і клюбнікі на выстаўцы

Пасля дакладаў, быўшыя на выстаўцы сяляне і школьнікі задавалі дзецям-клюбнікам шэраг пытаньняў, зьвязаных галоўным чынам з тэхнікай узрашчваньня гародніны. Клюбнікі хутка і сьмела адказвалі на пытаньні, выяўляючы даволі ведаў па гародніцтву. У сваіх дакладах клюбнікі зачэплівалі гэткія пытаньні: характарыстыка глебы гародаў іх бацькоў, спосабы ўгнаеньня, пасадкі і высеву гародніны, апісвалі свой догляд за расьлінамі, барацьбу са шкоднікамі і канчалі даклады падлікам ураджаю і яго параўнаньнем з ураджаямі бацькаў. Ураджай клюбнікаў можа быць вызначаны гэтакімі лічбамі.

| Назва культуры | Вага аднаго экзэмпляру ў фунтох | | |
|---|---|---|---|
| | Лепшы | Сярэдні | Горшы |
| 1. Буракі сталовыя . . | 3,5 | 2,0 | 1,5 |
| 2. Морква сталовая . . | 3,0 | 1,5 | 0,5 |
| 3. Капуста . . . . . | 25,0 | 15,0 | 10,0 |

З 16 клюбнікаў было прэміравана 8 чалавек. У лік прэмій уваходзілі садовы і гародны інвэнтар, падручнікі па гародніцтву, комплекты часопісі „Плуг“ і розная с.-г. літаратура.

Выдача прэмій праводзілася на агульным сходзе ўсіх прысутных. Пры выдачы выразна вызначалася за што прэміруецца той ці іншы

клюбнік і калі апошнім выдавалася прэмія, то ўдзельнікі выстаўкі сустракалі кожнага пераможцу воплескамі.

Першую прэмію атрымала дзяўчына 10-12 год, Волька Шаўчэнкава, якая прынясла на выстаўку самую лепшую моркву, буракі, гуркі і другую па якасьці капусту.

У гутарцы з бацькамі некаторых клюбнікаў выявілася, што яны досыць зразумелі важнасьць і значэньне дзіцячых с.-г. клюбаў і даюць дзецям поўную магчымасьць выявіць сваю здольнасьць.

Каля чугуначнай стан. Жодзіна, Менскай акругі і ст. Прыямына, Барысаўскае акругі ў бліжэйшых вёсках было арганізавана 6 дзіцячых с.-г. клюбаў. У гэтых клюбах дзеці таксама выявілі досыць уважлівасьці да сваёй працы і прадставілі свае экспонаты на дзіцячыя клюбныя с.-г. выстаўкі, праведзеныя прыблізна па таму-ж пляну, як і ў клюбе Барысаўскай сямёхгодкі чыгуначнікаў.*

Наогул, у гэтых раёнах экспонаты клюбнікаў па гародніцтву былі найлепшымі і поруч з дарослым жыхарствам дзеці-клюбнікі прымалі актыўны ўдзел у с.-г. выстаўках.

Тут таксама маладыя змагары на с.-г. фронце былі прэміраваны інвэнтаром па садоўніцтву і гародніцтву і с.-г. літаратурай.

Цяпер зробім падагуленьні.

1. Посьпех, дасягнуты клюбнікамі, зьяўляецца вынікам глыбокай зацікаўленасьці дзяцей пытаньнямі сельскай гаспадаркі, вынікамі іх спагадлівасьці і чуласьці на ўсе тыя практычныя парады, якія давалі ім студэнты-кіраўнікі клюбаў. Тут да рэчы будзе прывесьці такі прыклад, калі аднаму з клюбнікаў была прапанавана лепшая прэмія—набор гароднага інвэнтару, то ён адмовіўся ад гэтага падарунку і замест яго папрасіў кнігу—падручнік па гародніцтву.

2. Ня цяжка, бязумоўна, арганізаваць дзіцячы с.-г. клюб, але значна цяжэй добра наладзіць у ім працу і весьці яе па пэўнаму пляну. Ад апошняга залежыць увесь посьпех справы. З гэтага боку мы карысталіся, як найлепшым мэтодам кіраваньня, наведваньнем клюбнікаў дома. Асабліва карысны былі нашы наведваньні ў час галоўнай, чарговай працы па гародніцтву[1]). Практыкаваўся таксама спосаб наведваньня не адным кіраўніком, а разам з дзяцьмі-клюбнікамі. Разам з дзяцьмі вельмі часта слухачамі былі і дарослыя сяляне.

3. Посьпех працы клюбу знаходзіцца таксама ў простай залежнасьці ад сур'ёзнай, сталай працы кіраўніка клюба. Іначай лепш і не пачынаць арганізацыі клюбу, затым што пачатая справа загіне.

4. Хутчэй і мацней усяго сетка дзіцячых с.-г. клюбаў можа разьвіцца пры школах прымітыўках і сямёхгодках, дзе пры існуючым ужо ўклоне ў бок сельскай гаспадаркі дзіцячыя с.-г. клюбы могуць зьявіцца неабходнай іх часткай, пераносячы тэорыю ў практыку. Мы з вопыту упэўніліся, з якой лёгкасьцю нам удалося правясьці дзіцячыя клюбныя с.-г. выстаўкі пры школах у той час, калі там пачаліся ўжо заняткі. Жывая сувязь дзяцей са школай, кіраўнікаў з дзяцьмі, усё гэта ў значным стопні зьяўляецца ўмовай посьпеху працы.

5. Ідэя дзіцячых с.-г. клюбаў па свайму практычнаму значэньню павінна зацікавіць працаўнікоў вёскі і можна сказаць з пэўнасьцю, што пры дапамозе настаўніцтва, комсамолу і агрономаў дзіцячыя с.-г. клюбы выхаваюць новых, маладых і чулых гаспадароў.

Бел. с.-г. Акадэмія. **М. Альбіцкі.**

---

[1]) У першы год усе клюбнікі мелі заданьні па ўзрошчваньню толькі гародніны.

# Сельска-гаспадарчыя выстаўкі, як спосаб агропрапаганды.

14 кастрычніка па ўсей Беларусі праходзіла сьвяткаваньне „Дню Ўраджаю“. Гэта, можа сказаць, новае, савецкае сьвята, бо раней аб ім ня ведалі. Цяпер-жа, калі разьвіцьцю сельскай гаспадаркі надаецца вагромністае значэньне, „Дзень Ураджаю“ становіцца сьвятам с.-г. культуры і вытворчасьці.

Усе нашыя дзяржаўныя і грамадзянскія ўстановы прызнаюць за гэтым днём вагромністую ролю ў барацьбе за „Новую вёску“, за культурную і даходную сельскую гаспадарку. Гэта вельмі выразна сьведчаць тыя факты, што, калі у „Дзень Ураджаю“, па ўсіх раёнах былі наладжаны с.-г. выстаўкі, то для прэміраваньня больш культурных і лепшых гаспадароў і гаспадарак у складаньні прэміяльнага фонду на мясцох прымалі ўдзел розныя ўстановы (сельска-гаспадарчая і спажывецкая коопэрацыя, крэдытовыя таварысты, Збожжапродукт, РВК, Госбелторг. Вось чаму ў шмат якіх раёнах папярэдняя лічба (Акрза) у 200 руб. на раён павялічваецца ў 350 і нават 500 руб.[1]).

Асяродкам увагі і аб'яднаючым месцам раёну ў гэты дзень зьяўляецца с.-г. выстаўка. Да яе рыхтуецца ня толькі селянін, гатуючы лепшыя экспонаты палявой гаспадаркі, садоўніцтва, пчалярства, але да выстаўкі рыхтуюцца жанчыны з экспонатамі гародніцтва і розных хатніх вырабаў.[2]) і нават школьнікі—дзеці[3]).

Таксама шмат у якіх раёнах вельмі багата і шырока была паказана праца агронома, вэтэрынара, лясьнічага, с.-г. коопэрацыі і г. д. Шмат у якіх раёнах былі пабудаваны павільёны *агропрапаганда* (Расна, Асіповічы), дзе былі выстаўлены с.-г. літаратура, угнаеньні, модэлі шматпольных севазваротаў сялян (Астрашыцка-Гарадзэцкі раён) і г. д. Тут-жа ў гэтым павільёне вельмі поўна і добра ў табліцах і дыяграмах паказана праца агронома, вэтэрынара, с.-г. і крэдытовай коопэрацыі і наогул выяўлена становішча сельскай гаспадаркі раёну (Расна, Заслаўе).

У шмат якіх раёнах у гэтым годзе на выстаўках жывёла не паказвалася, але там, дзе яна і была выстаўлена (Асіповічы, Расна, Крычаў, Ворша) выстаўка прашла больш цікава. Апрача таго, выстаўленая жывёла была значна лепшай у параўнаньні з мінулым годам. Асабліва гэта прыметна было ў Калінінскай акрузе і Бабруйшчыне. У Крычаве і Чэрыкаве сярод рагатай скаціны на 70 проц. былі метысы швіцы, а сярод коняй большасьць з крывёю *ардэна і норвэга*. Гэтыя коні перашлі сюды з Мсьціслаўшчыны[4]).

На Крычаўскай выстаўцы былі дзьве каровы з удоем малака—300 вёд.[5]). Таксама паказваліся і добрыя сьвіньні. Іх плямя сяляне даставалі на Энгэльгардаўскай с.-г. станцыі (Смаленшчына).

---

[1]) Крычаўскага раёну прэміяльны фонд складаўся з 500 р., Асіповіцкага—300 р., Зембінскага—300 р., Сьмілавіцкага—250 р.,

[2]) Вельмі багата хатнія вырабы жанчын былі паказаны ў раёнах Асіповіцкім, Расьнянскім, Шацкім.

[3]) Праз клюбныя аб'яднаньні.

[4]) У Расьне за аднаго жарабка селяніну давалі 300 р.

[5]) Каровы дацкай пароды.

Большасьць выставак выяўляла лепшыя вынікі ў разьвіцьці палявой гаспадаркі, гародніцтва, садоўніцтва, менш—пчалярства і значна больш хатнія вырабы (асабліва вырабы жанчын).

Кожны раён меў сваё дасягненьне.

У галіне палявой гаспадаркі сяляне палучалі прэміі за большы ўраджай жыта (110-120 п.) па лубіну і мінэральных угнаеньням (напрыклад, Шацкі і Сьмілавіцкі раёны), за правільны плодазьмен і высокія ўраджаі[2]).

У здабываньні і павялічэньні запасаў корму прэміраваны тыя гаспадаркі, якія найбольш пашырылі кармовыя буракі, турнэпс, сэрадэлю.

На Чэрыкаўскай выстаўцы быў прэміраваны селянін, які пры малазямельлі давёў засеў кармовых буракоў у полі да 1 дзес., другі—што перашоў да поўгароднай гаспадаркі.

У галіне гародніцтва выстаўкі паказалі добрую капусту[3]), буракі, бручку, гуркі.

Па пчалярству заслугоўвае павагі і пашаны селянін з м-ка Крычава, які за год вырабіў 20 пуд. штучнай вашчыны і давёў збор мёду да 2 пуд. на вулей. Пчалярства—гэта старая, вельмі паважная галіна сельскай гаспадаркі Беларусі; яна пачынае ўзмацняцца.

Амаль па ўсіх выстаўках было шмат хатніх вырабаў жанчын (коўдры, хусткі, абрусы, ручнікі)[4]).

Прэміі вызначаліся комісіямі, куды ўваходзілі сяляне. Прэміі выдаваліся с.-г. машынамі, малочнымі, садовымі і гароднымі прыладамі, мануфактурай і нават грашмі. Апрача прэмій, выдаваліся ганаровыя дыплёмы.

Сама раздача прэмій і агалашэньне культурных адзнак гаспадаркі, нагэтульки цікавіла прысутных сялян, што яны шмат дзе заставаліся да познай ночы і вялікай грамадай пад гукі музыкі віталі сялян-культурнікаў[5]).

У некаторых раёнах пры аглядзе выстаўкі так выразна былі заметны посьпехі і дасягненьні сельскай гаспадаркі за мінулы год, што сялянства ў пастанове на мітынгу прасіла дадаць падзяку агрономам за іх працу.

Амаль ўсе выстаўкі прыцягвалі шмат сялян. У некаторых раёнах лічба ўсіх, аглядаўшых выстаўку, дасягала 2-3 тысяч асоб[6]).

Большасьць выставак былі раённымі і цягнуліся 1-2 дні. Гэта зьявішча мо' трэба лічыць і ня зусім добрым. Выстаўкі ўсе-ж такі былі далёка ад вёскі і сельсавету, чаму яшчэ тысячы сялянства іх ня бачыла. Гэту думку выразна падкрэсьлівае Сьмілавіцкі раён, дзе выстаўкі былі перакінуты ў сельсаветы. Праўда, для агрономаў, настаўнікаў і працаўнікоў РВК працы было больш, але і вынікі вышлі яскравыя. *На с.-г. выстаўцы сельсавета былі сяляне ўсіх вёсак.* Падругое, гэтыя выстаўкі былі працягнены на цэлы тыдзень. Такім чынам, пытаньні сельскай гаспадаркі, агляд лепшых прыкладаў сялянскай працы, спрэчкі і развaжаньні сялян: што лепш і што горш, займала больш галоў і большы час.

*Тут ў поўнай меры выстаўкі вучылі сялян, як рабіць лепей.*

---

[2]) Напрыкл., у Астрашыцка-Гарадзецкім раёне селянін Рыгор Дзядзюля завеў сам 8-польле і сёлета меў ураджай жыта 110 пуд., аўса 140 пуд. на дзес.

[3]) У Чэрыкаве дзяўчынка 17 г. атрымала прэмію за качан капусты ў 1 п. 12 ф.

[4]) Асіповіцкі, Раснянскі раёны. Лепшыя экспонаты прэміраваліся мануфактурай.

[5]) М-ка Заслаўе.

[6]) Асіповіцкі раён 5000 асоб.

Такім чынам, с.-г. выстаўкі і дзень „Сьвята Ўраджаю“ сталі аднэй з галоўных формаў і спосабаў агропрапаганды (пашырэньне агрономічных ведаў).

Наша пасьля рэволюцыйная вёска ўжо ведае, што такое *агроном* і што ён можа зрабіць у сельскай гаспадарцы.

Мы, напэўна, ўжо вельмі блізкі да таго часу, калі на раёне будзе не 2-3 агрономы, а кожны сельсавет на свае сродкі запросіць агронома. Сельсавету ён так патрэбен, як настаўнік, доктар, вэтэрынар. Патрачаныя рублі на ўтрыманьне агронома дадуць сельсавету тысячы пудоў павялічаным ураджаем. І гэта зусім зразумела, бо ў нашай сельскай гаспадарцы можна шмат чаго зрабіць вельмі проста, без затраты грошай, і мець добры даход.

Агроному трэба толькі ставіць пытаньне селяніну, што прыбыльна і цэнна, а ён падумае, абмяркуе і зробіць. Патрэбен „сказ і паказ“.

*Дык больш с.-г. ведаў селяніну!*

*Больш с.-г. кніг, газэт і журналаў у вёску!*

*Сельска-гаспадарчыя выстаўкі з раёнаў у сельсаветы!*

*Сельсаветы, завеце к сабе на службу агрономаў!*

**Сьц. Тупяневіч.**

---

## Трэба вучыць паказам, а ня сказам.

Яшчэ ў XVI стагодьдзі чэх-пэдагог, Ян Амос-Каменскі, казаў, што пры навучаньні трэба паказваць тую рэч, якая вывучаецца, бо гэта— самы лепшы спосаб перадаць свае веды другому.

Кіруючыся гэтым, я, апрача гутарак з сялянамі аб палепшаньні сенажаці, залажыў у сябе на хут. Сарнаполь, Полацкага раёну, 16 вопытных дзялянак па 1 кв. саж. кожная.

Першыя чатыры дзялянкі (№№ 1, 2, 3 і 4) былі адведзены пад досьлед угнаеньня пячным попелам

На дзялянцы № 1 зьніштожаны мох, якога набралася 20 фунтаў (1200 п. з дзес.) і туды-ж падсеяна патруха цімафейкі і мурожніцы лугавой (Festuca pratensis Huds.), а затым пасеяна 3 фунты попелу (180 пуд. на дзес.).

На дзялянцы № 2 таксама зьніштожаны мох і пасеяна трава, але ўжо без угнаеньня попелам.

Трэба была бачыць, каб праканацца, якая вялікая розьніца была ў травах гэтых дзьвюх дзялянак. На дзялянцы № 1 вельмі добра парасла, як леташняя, так і падсеяная трава, а на дзялянцы № 2 яна вырасла значна слабей.

Дзялянка № 3 была толькі пабаранавана, затым на ёй быў зьніштожаны мох, а дзялянка № 4 была толькі ўгноена 3 фунтамі попелу (180 пуд. на дзес.).

Параўнаньне першых дзьвюх дзялянак сьведчыць, наколькі нашы глебы пад сенажацямі зьбяднелі на фосфар і калі.

На дзялянках №№ 5, 6, 7 і 8 быў зроблены досьлед угнаеньня сенажаці *гнаёваю жыжкай*. Гэты досьлед паказаў, якую магутную сілу мае гнаёвая жыжка, якая выцякае на вуліцу з хлявоў нашых гаспадарак.

Дзялянкі №№ 9, 10, 11 і 12 паказалі ўплыў *„начнога золата“* на рост травы. Дзялянка № 9 была ачышчана ад моху, засеяна патрухай

і ўгноена 25 фун. „золата“. Трава на ёй парасла буйная, як быццам зусім ня лічучыся з сёлетнімі ўмовамі, якія няспрыялі росту траў. Па прыблізным падліку дзесяціна сенажаці, якая была ўгноена „золатам“, дасьць ня менш 350 пуд. добрага сена замест сорных траў, што панавалі там раней.

Дзялянка № 10 вышла многа слабей з прычыны адсутнасьці на ёй угнаеньня. Яна падобна была да дзялянкі № 2 (зьністожаны мох і падсеяна патруха).

Дзялянкі №№ 13, 14, 15 і 16 у маім досьледзе былі *ўгноены жоўтым пяском;* пры чым №№ 13 і 14 з падсевам і без падсеву травы. На кожную дзялянку рассыпана па 12 пуд. пяску (28.800 пуд. на дзесяціну).

Дзялянка № 15 угноена пылам з дарогі, ачышчана ад моху і падсеяна травой. Тут трава была лепшая, чым на дзял. №№ 13 і 14 (угнаеньне жоўтым пяском).

Але ўсё-ж такі і жоўты пясок на запушчаных сенажацях робіць нешта нязвычайнае. Ня зьністожыўшы моху, я насыпаў на дзял. № 13 і 14 пяску таўшчынёй у 4 см. Ад гэтага травастой зусім зьмяніўся. Мох згніў і зрабіўся ўгнаеньнем для культурных траў.

Дзялянка № 16 была ўгноена гіпсам ($CaSO_4$). Гіпс зрабіў прыметны ўплыў на рост травы.

Раю вам, гаспадары, залажыць на сваіх сенажицях такія-ж дзялянкі. Яны маюць вялікае навучальнае значэньне, як для вас самых, так і для вашых суседзяў.

Ніколі не забудуся, як стары 70 год, аглядаючы мае дзялянкі, сказаў: „Якія-ж былі мы дурні, сяляне, калі дзясяткі год высыпалі попел на вуліцу, аддавалі сьвіньням свой гной, глядзелі, як выцякае гнаёвая жыжка з нашых хлявоў, забруджаючы паветра нашых сяліб; або пяску: яго ў нас цэлыя горы. Усё гэта зьмяняе выгляд нашай сенажаці, дае два ўраджаі сена адразу, а мы нават і не падумалі аб гэтым“.

Грамадзяне! скарыстоўвайце тыя ўгнаеньні, якія знойдуцца ў вас пад рукамі. Вы павінны баранаваць, ўгнойваць і засяваць травамі свае сенажаці. Зьменяцца вашы сенажаці к лепшаму, і ўся гаспадарка палепшыцца. У каго добры корм, у таго і сытая скаціна, а дзе сытая скаціна, там шмат добрага гною і добрыя ўраджаі на полі.

Вось залаты пярсьцёнак сельскага гаспадара. Хто яго носіць, той ня бывае галодны.

Г. Шасьцітка.

---

# З працы Турскай дасьледчай станцыі.

Раён, які абслугоўвае Турская с. г. дасьледчая станцыя (паўднёва-ўсходняя частка Бабруйскай акругі, паўднёвая частка Магілеўшчыны і Калінiншчыны), характарызуецца 1) малазямельлем, 2) беднай ападзоленай глебай (пяскі), якая патрабуе шмат угнаеньня і 3) недастачай корму. К вывучэньню спосабаў палепшаньня мясцовай сялянскай гаспадаркі, павышэньню яе ўраджаяў і павялічэньню корму і прызначаны некаторыя вопыты станцыі.

### I. Ураджаі азіміны.

Зімовае збожжа ў сялян займае ⅓ пасяўной плошчы. Азіміну сеюць па позным папары. Догляд за папарам вельмі дрэнны. Нават па гнаі ўраджай азіміны бывае нізкі (55 пуд. з дзес.).

Дасьледчая-ж станцыя па чыстым і занятым папарам мела ў 1925 г. такія ўраджаі ў пудох:

| I ГРУПА | | | II ГРУПА | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Які папар | Ураджай зярна з дзесяціны | | Які папар | Ураджай зярна з дзесяціны | |
| | пуд. | ф. | | пуд. | ф. |
| Па ячмені ўгноеным 2400 п. гною . . . | 86 | 14 | Па грэчцы . . . . . | 117 | — |
| Па бульб. папару . . | 115 | 6 | Па выцы (скошанай на сена) . . . . . . | 85 | — |
| Па раньняму папару (травень) . . . . . | 96 | — | Па лубіну (без угн.) . | 76 | — |
| Па ячмені без угнаеньня | 56 | 15 | Па раньнім папары (красавік) . | 98 | 28 |
| Па сэрадэлі . . . . . | 80 | 28 | „ (травень) . | 96 | — |
| Па лубіну . . . . . . | 62 | 31 | „ (чэрвень) . | 82 | — |

Ураджай жыта ў гэтым годзе па акругам такі: Бабруйскай—46 п., Магілеўскай—43 п., Калінінскай—42 п.

Прыведзеныя лічбы станцыі паказваюць, што найлепш сеяць на полі перад зімовым жытам грэчку, бульбу, выку, сэрадэлю і лубін. *)

Па грэчцы і бульбе ўраджай зімовага жыта вышэйшы, чым па раньнім (красавіковым) папару. З чыстых папараў лепш будзе раньні, узараны ў красавіку.

Ураджай азіміны па лубіну гэтага году нізкі дзякуючы сухой восені мінулага году. У звычайныя гады ўраджай па лубіну такі самы, як і па чыстым папару з 2400 пуд. гною. Вось даныя ўраджаю жыта па лубіну і па гнаі на Турскай дасьледчай станцыі за 1923-24 г.

| | | |
|---|---|---|
| Па гнаі 2400 пуд. . . . . . . | 90 | пуд. з дес. |
| „ лубіну . . . . . . . . . . | 88 | „ |
| Бяз угнаеньня . . . . . . . . | 52 | „ |

Завораны лубін можа замяніць гной, якога ў гаспадарцы мала. Гэта адзін з спосабаў павышэньня ўраджаю зімовага жыта; над ім трэба падумаць кожнаму гаспадару і па магчымасьці прымяніць яго ў сваёй гаспадарцы.

Вось прыклад аднаго мясцовага хутараніна з Чорнай Вірні, Кулажонкава, які здымае ў 2 гады тры ўраджаі з плошчы, з якой мясцовыя сяляне здымаюць адзін дрэнны ўраджай жыта.

Гр. Кулажонкаў не пакідае поле пад талаку (папар), а сее зімовую выку. Вясной зьбірае выкавае сена (250 пуд.) і засявае грэчку (гэта па 3-х годнім вопытам Тўрскай станцыі самы лепшы час для пасеву грэчкі).

*) Ураджай гэтых расьлін на станцыі ў сярэднім за 2 гады—бульба 1400 пуд., грэчка 70 пуд., выка (сена) 300 пуд. і сэрадэля (сена) 250 пуд.

Пасьля прыборкі грэчкі, 20 жніўня сее жыта. Ураджай жыта па грэчцы вышэй, чым на талочным папару. Вось прыклад разумнага падыходу к карыстаньню сваёй зямлёй, на што павінны зьвярнуць увагу і іншыя гаспадары.

## II. Корм.

Другім па важнасьці пытаньнем зьяўляецца кармовае. Прыродная кармовая плошча, заліўныя сенажаці і сухадолы ня могуць здаволіць патрэбы жывёлагадоўлі, тым больш не даюць магчымасьці палепшыць яе. Трэба знайсьці добрыя кармовыя аднагоднія і шматгоднія травы, якія падыходзілі-б да мясцовых умоў раёну.

Шматгодняй травой для нас зьяўляецца канюшына, пасеў якой на дасьледчай станцыі і ў сялян на працягу некалькіх год даваў добрыя ўраджаі.

У гэтым годзе канюшына мала ўдалася, дзякуючы дрэннай вясьне, гэта выклікала нараканьні гаспадароў, якія пачалі сеяць канюшыну толькі ў бягучым годзе. Але ўраджаі і гэтага году на станцыі былі здавальняючыя.

| Першы год карыстаньня. | | Другі год карыстаньня. | |
|---|---|---|---|
| I укос. . . . . | 60 пуд. | I укос . . . . | 70 пуд. |
| II укос (атава) . | 120 „ | Атава . . . . | 130 „ |
| Усяго . | 180 п. з дес. | | 200 п. з дзес. |

Ураджай канюшыны значна большы, чым ураджай сена сухадолаў (66 п. з дзес.) і заліўных сенажацяй (100 пуд. з дзес.). Ураджай канюшыны ў 1924 г. на Турскай дасьледчай станцыі быў 730 пуд. з дзес.

З аднагодніх бабовых расьлін найбольш падыходзячымі для раёну будуць сэрадэля, яравая выка і пялюшка.

### ІХ УРАДЖАІ.

| Назва расьлін | Ураджай 1924 г. | | Ураджай 1925 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Зярна | Саломы | Зярна | Саломы |
| Сэрадэля . . . | 119 | 309 | 78 | 275 |
| Палюшка . . . | 128 | 268 | 85 | 268 |
| Выка . . . . | 99 | 333 | 118 | 276 |
| Гарох . . . . | 183 | 177 | 226 | 222 |

Сэрадэля, выка і пялюшка павінны заняць свое месца ў сялянскім пасеве кармовых расьлін. Гарох зьяўляецца больш зярновай расьлінай.

Гэтыя расьліны можна сеяць у любым севазвароце.

Усё гэта няхай дапаможа селяніну ў барацьбе за павышэньне ўраджаю і палепшаньне сваёй гаспадаркі.

Агроном **Бабіцкі.**

(Турская с.-г. дасьледчая станцыя).

# Догляд першагодняй канюшыны.

Доглядам за расьлінамі наогул завецца шэраг спосабаў, якія павінны паставіць пасеў ва ўмовы найлепшага раўьвіцьця.

У гэтым артыкуле будзе гутарка аб доглядзе за канюшынай у першы год яе росту. Вядома, што канюшына высяваецца вясною па азіміне або разам з ярыною. Калі вільгаці з вясны хапае, то канюшына ўсходзіць даволі хутка, праз 2-3 тыдні. Калі-ж вясна сухая, то ўсходы зьяўляюцца пазьней. У першы час канюшына расьце слабавата, бо перашкаджае яе росту збожжа, з якім яна пасеяна, а яшчэ больш шкодзяць дзікія травы. У гэты час дапамагчы пасеву канюшыны тым ці іншым спосабам немагчыма. Але як толькі прыбярэцца збожжа, часьцей жыта ці авёс, тут ужо гаспадар можа спрыяць лепшаму росту канюшыны.

Перш-на-перш трэба пасьля прыборкі збожжа зараз-жа зьвесьці снапы, каб не аставаліся доўга на полі; затым зьністожыць усе дзікія травы, а зьверху пасеву, калі ёсьць магчымасьць, рассыпаць пудоў 10—15 гіпсу на дзесяціну. Пасьвіць скаціну па канюшыне ўвосень ня трэба, бо гэта вельмі шкодзіць ёй. Аб гэтым кажа нам вопыт лепшых гаспадароў і назіраньні нашых дасьледчых станцый.

Вядома, што ў канюшыны першага году вырастаюць толькі лісьце, а кароткае сьцябло застаецца пры самай зямлі. Усе лісьці канюшыны застаюцца на паверхні зямлі. На другі год з пучкоў, якія знаходзяцца ў пазухах ліставых хвасткоў, вырастаюць новыя сьцяблы, якія пазьней даюць кветкі і ўраджай сена (першы і наступныя ўкосы).



Сьцябло канюшыны ў першы і другі год росту.

Дзеля таго, што пучкі галоўнага сьцябла знаходзяцца ў першы год над зямлёй, то ў часе выпасу скаціна іх зьядае і рост новых сьцяблоў спыняецца. Асабліва ў першы год шкодны выпас авечак, бо яны сашчыпваюць канюшыну вельмі нізка і зьядаюць самае „сэрца“, з якога йдзе разьвіцьцё расьліны.

Калі-ж канюшына перазімуе, то галоўны корань урастае ў зямлю, а разам з ім уцягваюцца і пучкі скарочанага галоўнага сьцябла. Такім чынам, зрэзваньне канюшыны пры самай зямлі ці сашчыпваньне скацінай бывае ўжо няшкодным. Такая канюшына хутка адрастае і дае добрую і густую траву (гл. мал.).

Выпас скаціны па канюшыне першага году шкодны яшчэ і па другому. Канюшыну сеюць на добра вырабленым полі. К восені такое поле не зарастае яшчэ дзёрнам і скаціна лёгка разрывае маладыя карэньні ці выбівае іх на паверхню разам з грудкамі зямлі. Пасьля гэтага часта канюшына вымярзае. Мала таго, шкодзіць канюшыне і ўтоптаньне. Тут можна прыпомніць беларускае прыслоўе: „ня шкода таго, што зьесьць, а шкода, што стопча“.

Усё гэта павінна прымусіць гаспадара ня пасьвіць скаціну па канюшыне ў першы год пасеву.

Калі канюшына добра разраслася і ёсьць небясьпека, што яна выпрае зімой, то лепш ўвосень яе скасіць. Прычым касіць трэба высока, каб ня зрэзаць „сэрца“. Усё гэта аслабляе далейшае разьвіцьцё расьліны, але гэта лепшае з дрэннага.

Наогул, карыстаньне канюшынай у першы год аслабляе расьліны і робіць дрэнны ўплыў на наступныя ўраджаі сена.

Гэта галоўныя вымаганьні па доглядзе за канюшынай 1-га году ўвосень. Гэты догляд аплаціцца павышаным ураджаем.

Добры-ж ураджай канюшыны падніме і продукцыйнасьць палявой гаспадаркі.

**А. Савельлеў.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Выраб поля пад ярыну.

*(Зяблевая воранка).*

Выраб поля пад ярыну (авёс, ячмень, пшаніцу, лён, бульбу) можа пачынацца зараз-жа пасьля прыборкі зімовага збожжа або іншых расьлін, якія дзеля ярыны зьяўлаюцца папярэднімі культурамі.

Але гаспадар не заўсёды мае час зрабіць першую воранку рана (жнівень) або пасьля жніва жыта (ліпень) і адкладвае яе на восень; здараецца, што асеньнія халады спыняюць гэту працу і яна пераносіцца на вясну.

Зусім зразумела, што самы час воранкі павінен адбівацца на ўраджаі ярыны. Гаспадары-практыкі тут маюць шмат сваіх назіраньняў (нажаль, няма магчымасьці іх прыводзіць). Так, некаторыя вучасткі поля (затравеўшыя пырнікам або наважаныя пад сеў бульбы, пшаніцы, ячменю) сяляне стараюцца ўзараць раней з восені.

У меншым ліку выпадкаў поле арэцца пазьней, а то з-за маразоў застаецца і нявораным на вясну толькі там, дзе мяркуецца пасеў лубіну, выкі на сена або дзе поле пападзе ў папар (папарная зьмена).

Ужо і з гэтага можна было-б сказаць, што час першага ворыва мае значэньне на падвышэньне ўраджаю.

Усе дасьледчыя станцыі поўдня СССР лічаць асеньнюю воранку вельмі патрэбнай. Яна лепш захоўвае вільгаць і дае большыя ўраджаі ярыны. Палтаўская дасьледчая станцыя падлічвае ўраджай ярыны ў зьвязку і з часам асеньняй воранкі.

| Калі зроблена воранка. | Ураджай у пудох. | |
|---|---|---|
| | Збожжа | Саломы |
| Ліпень . . . . | 87 | 167 |
| Жнівень . . . . | 76 | 142 |
| Верасень . . . | 71 | 125 |
| Кастрычнік . . . | 63 | 113 |
| Вясна . . . . . | 60 | 106 |

Пры нашым клімаце, вядома, вільгаць ня мае такога значэньня, але тут ужо раньняя воранка цікава другім. Увосень пры цёплай па-годзе на ўзараным полі йдзе раскладаньне ржэўніка, сарнякоў, розных карэньняў і г. д., бо ў той час могуць яшчэ выяўляць сваё жыцьцё глебавыя мікробы. Раскладаньне імі расьлінных (арганічных) частак зямлі пры доступе паветру праходзіць нормальна і даволі хутка. Вось чаму наступная расьліна (ярына) вясною знаходзіць дзёран перагніў-шым, поле пульхным і багатым пажыўнымі матэрыямі.

Больш познае ўзорваньне поля ўвосень (калі становіцца халодна, ідуць дажджы) ня можа ўжо мець поўнага значэньня. Гэта тлумачыцца тым, што адсырэўшая і вільготная зямля мае менш паветра ды й цяплыня яе зьніжаецца больш, чым гэта патрэбна для нормальнага жыцьця мікробаў. Уся карысная іх дзейнасьць адкладваецца да вясны. Вось чаму познюю асеньнюю воранку можна лічыць аднолькавай з вясеньняй. Тут толькі праца гаспадара як-бы пераносіцца з вясны на восень.

Але калі да асеньняй воранкі дадаць яшчэ адну вясною, то такі выраб поля пад ярыну дае большы ўраджай да 20% у параўнаньні з адным ворывам вясною ці ўвосень*).

Вопыт Турскай дасьледчай станцый**) таксама паказваюць павя-лічэньні ўраджаю пасьля асеньняй—вясеньняй воранкі. Паказваю табліцу.

| Воранка. | | | Зярна пудоў. | Прыбаўка % |
|---|---|---|---|---|
| Ячмень | | Вясною . . . . . | 20 п. 6 ф. | 0 |
| | | Ўвосень-вясною . . | 22 „ 23 „ | 2 п. 17 ф. |
| Авёс. | Бяз гною, | Вясною . . . . . | 18 „ 28 „ | 0 |
| | | Ўвосень-вясною . | 25 „ 28 „ | 7 „ |
| | 1200 п. гною. | Вясною . . . . . | 23 „ 4 „ | 9 „ 18 „ |
| | | Ўвосень-вясною . | 32 „ 22 „ | 0 |

Як бачым, двайная воранка (ўвосень-вясною) дае прыбаўку ўраджаю да 30%.

Яшчэ большае значэньне мае асеньня воранка (у параўнаньні з аднэй вясеньняй) пад бульбу. Паказваю ўраджай бульбы дасьледчых станцый.

*) Досьледы Энгельгардтаўскай, Ваяцкай, Тульскай, Ц. с-г. А і Дашэўскай дась-ледных станцый.

**) Бабруйская акруга.

| Дасьледчая станцыя. | Воранка. | | |
|---|---|---|---|
| | Ўвосень. | Вясною. | Ўвосень—вясною. |
| Дашэўская . . . | 921 п. 20 ф. | 919 п. 20 ф. | — |
| Кузьма-Дзям'ян. . | 674 „ 24 „ | 581 „ | — |
| Уладзімерская . . | 982 „ 20 „ | — | 994 п. 20 ф. |
| Турская (бяз гною) | — | 700 „ | 1020 „ |
| „ (1200 п. гною) | — | 942 „ | 1320 „ |

Як бачым, пры ўмовах Беларусі дзьве воранкі пад бульбу (увосень—вясною) маюць значэньне і нават большае, чым на ўсход і поўнач СССР,дзе зямля больш цяжкая.

Таксама асеньняя воранка поля ўздымае ўраджай і лёну (валакна і семя).

Асабліва гэта прыметна там, дзе лён сеюць пасьля канюшыны. А вядома, што лепшым месцам пад лён трэба лічыць навіну або канюшынішча (1-2 год).

Пры раньняй воранцы дзёран канюшынішча пасьпявае лепш перапрэць і лён мае ўжо пульхнае, пагнойнае і чыстае ад сарнін поле.

Усё гэта нам гаворыць, што зяблевая воранка поля ўзвышае ўраджай ярыны і павінна праводзіцца ўвосень, як найраней.

Ужо, толькі зусім прыпадлівыя месцы поля трэба ўзорваць вясною, бо пры асеньняй воранцы яны заплываюць к вясьне і далей вырабляюцца горш.

**Сьц. Тупяневіч.**

# САДОЎНІЦТВА

## Нашы лепшыя асеньнія сарты яблыкаў.

Пераходзячы ад летнікаў да асеньніх сартоў яблыкаў, лік як іх усё зьмяншаецца, трэба сказаць, што ня зусім добра справа і з доўгатрывалымі зімовымі сартамі.

Па нашых досьледах, у Віцебшчыне і Магілёўшчыне сяляне пакуль што мала знаёмы са Штрэйфлінгам (або асеньняе паласастае) ня гледзячы на тое, што гэты сорт сустракаецца ў фальваркавых садох і мае вялікую вартасьць.



Асеньняе паласатае.

Па Горацкаму памолёгічным садзе за шмат дзясяткаў год згінула 18,5% дрэў, хворых 22,7%.

У Я. Мароза (Фатынь, Лепельшчына) сёлета па нашых досьледах вызначылася, што Штрэйфлінг тут адчувае сябе вельмі добра. На ўзгорчатых мясьцовасьцях бадай зусім не хварэе, шырока раськідвае сваю карону і добра пладаносіць. Расьце добра на глiністых глебах. М. Рытаў каля 40 год распаўсюджваў Штрэйфлінг з Горацкіх шко-

лак. Трэба лічыць, што гэты сорт атрыманы з Прыбалтыцкага краю. Плады яго зьнімаюцца з дрэў не раней сярэдзіны верасьня (IX мес.); яны моцна трымаюцца на дрэвах і па большасьці бываюць бяз плям. Захоўваюцца плады да лістапада і нават да сьнежня (XII мес.). Яблыкі сярэдняй велічыні, бываюць і вялікія плады, высокай формы, трохі рабрыстыя. Колер на сонечным баку чырвоны, на цяністым—ясна-жоўтай фарбы.



Пуцімка.

Паміж шмат асеньніх сартоў Штрэйфлінг добра пазнаецца сваім ружовым сакавітым мясам, вельмі прыемным, салодка-кваснаватым, трохі малінавым смакам.

Штрэйфлінг заўсёды на рынку мае вышэйшую цану (на 40—60 к. за пуд), як іншыя звычайныя сарты.

У горацкіх пладовых выхавальніках зусім скасаваны апорт, цітаўка, баравінка. Усе гэтыя сарты дрэў хвараюць і хутка гінуць.

За астатнія гады ў нашых варунках нічога лепшага з асеньніх сартоў, апроч Штрэйфлінга, знайсьці немагчыма. У школках асеньняе паласастае вельмі добра расьце, бадай лепей за ўсіх сартоў. Вось чаму мы перашлі да масавага прышчэпліваньня толькі гэтага сорту.

Да каштоўных і трывалых асеньніх яблык трэба аднесьці яшчэ *пуцімку* і *шэрынку*.

*Пуцімка* больш сустракаецца на ўсходзе, *шэрынка* на захадзе Беларусі.

Карона пуцімкі шырока разрастаецца. Плады ясна-жоўтага колеру, на сонечным баку нібы з воску з чырвонымі кропкамі. Мяса салодка-кваскаватае, сакавітае, з прыемным пахам. Плады трываюць аж да студзеня (1 мес.).

*Шэрынка* родам з Остзэйскага краю, трывалы сорт для *Віленшчыны, паўднёва-заходняй Меншчыны*, рэдка трапляецца ў Магілёўшчыне.



Шэрынка.

Кароны раськідваюцца шырока. Плады сьпеюць у верасьні, кастрычніку, але трываюць да студзеня. Колер плада шэра-гліністы. Мяса з вельмі прыемным. асабістым смакам. Недахоп шэрынкі той, што прышчэпы слаба растуць у выхавальніку і трэба доўга чакаць першага ўраджаю (на 9-10 г.).

**М. Бурштэйн.**

(Горацкая дасьл. станцыя).

---

# Падрыхтоўка насеньня пладовых дрэў к пасеву.

Насеньне пладовых дрэў трэба спецыяльна падрыхтаваць к пасеву. Калі іх захоўваць да пасеву так, як захоўваць авёс ці ячмень—сухімі ў мяшочках і ў сухім памяшчэньні, то пры пасеве ў першы год насеньне ня ўзойдзе. Усходы зьявяцца толькі на другі год, а да гэтага часу ў зямлі значная частка насеньня страціць усходжасьць або будзе выбрана птушкамі, зьедзена мышамі і інш. Малая ўсходжасьць ад такога пасеву тлумачыцца тым, што скарлупа насеньня яблыні і ігруш, а асабліва костачкі вішань і сьліў вельмі цьвёрдыя і без размаканьня яны не даюць расткоў.

Дзеля таго, каб мець добрыя ўсходы, насеньне трэба сеяць восеньню або пескаваць яго.

Калі думаюць насеньне сеяць ўвосень то рабіць гэта трэба зараз-жа пасьля збору. Асеньні пасеў насеньня больш пашыраны; асабліва яго можна раіць для костачкавых парод. Пры чым высяваць костачкі трэба па магчымасьці зараз-жа пасьля ачысткі іх ад мякаці, пакуль яны ня высахлі. Былі выпадкі, калі костачкі сьліў і вішань сохлі толькі 3 тыдні і ўжо трацілі ўсходжасьць да 100%.

Насеньне трэба сеяць на ўгноеным полі, на якім магла-бы добра расьці гароднiна. Перш-на-перш трэба зрабіць грады 100 см. ($1^1/_2$ арш.) шырыні і 40 мэтр. даўжыні; насеньне высяваць у папярочныя барозны, зробленыя матыкай на 4 вярш. адна ад другое. Раськідваць насеньне па 4 зярняткі разам на 1 вярш. у радку і з такім разьлікам; каб пры закрываньні яны былі на глыбіні 1 вярш. (на градзе зьмесьціцца да 7 фун. сьліў і 2 фун. вішань). Па верху усей грады добра зрабіць насьціл з перагнойнай зямлі. Яна мяшае заплываньню поля і дае пажыўныя матэрыі будучым расьлінам.

Таксама сеюць насеньне яблынь і ігруш. Розьніца толькі тая, што гэта насеньне можна сеяць нават перад самымі маразамі, а да пасеву яно можа заставацца сухім. Але рэдка садаводы высяваюць насеньне яблынь і ігруш ўвосень, бо гэта не заўсёды бывае добра. Так, калі пасьля пасеву будзе дождж і надоўга стане цёплая пагода, то насеньне ў зямлі можа падгнісьці ці вымыцца дажджом. Шкодзяць насеньню на градах таксама і мышы. Нягледзючы на гэта, трэба паклапаціцца і аб тым, каб пасеўныя грады заховаць ад сьвіней і іншай жывёлы.

Ёсьць і другі спосаб захаваньня насеньня зімою—гэта *пескаваньне (страціфікацыя),* якое трэба рабіць не пазьней студзеня. Дзеля гэтага бяруць 3 часткі буйного рачного пяску (прамытага ад гразі і гліны) на 1 частку насеньня; усё добра перамешваюць і кладуць у скрынку глыбінёй каля 10 см. (у глыбокай скрынцы будзе дрэнна праходзіць паветра ў ніжнія слаі, што пры гэтым мае вялікае значэньне.) Зьверху

мешаніну пяску з насеньнем прысыпаюць чыстым пяском і ўсё паліваюць вадой да сярэдняй вільгаці. Калі ўжо ёсьць снег, то лепш яго класьці замест вады. Зьверху скрынку прыкрываюць ад мышэй. Далей ужо ўсё робіцца па рознаму.

1) Або скрынку з насеньнем ставяць у пограб, дзе яна застаецца да пасеву. Зімой некалькі раз насеньне пераглядаюць і калі будзе сплясьнеўшае, то яго прамываюць і кладуць у сьвежы пясок.

2) Або скрынку з насеньнем выносяць у хлеў ці ў пограб і потым у працягу ўсяе зімы праз 2-3 тыдні ўносяць на 1-2 дні ў цёплае памяшчэньне. Тут насеньне адтае, яго перамешваюць і выносяць на 2-3 дні на мароз. З марозу скрынку ўносяць зноў у пограб. Такім чынам, за насеньнем садавод наглядае ўсю зіму.

Калі насеньне пад вясну пачне расьці, а сеяць яго яшчэ няможна, бо зямля не адтала, то насеньне трэба вынясьці на лёд, або на мёрзлую зямлю ў цень.

Гэтыя два спосабы патрабуюць увагі і дагляду, на што ня ў кожнага селяніна будзе час і ахвота, таксама не заўседы ёсьць памяшчэньне, дзе можна было-б яго паставіць, ды і мышы так часьцей шкодзяць. Па нашым досьледам лепш зрабіць так:

3) Запескаванае насеньне трымаць у памяшчэньні да маразоў. А калі надыходзяць маразы, скрынку трэба закапать у зямлю так, каб яна была роўна з паверхняй, а зьверху прыкрыць сьнегам і прытаптать. Скрынка ўмерзьне і так застаецца да вясны. Насеньне будзе знаходзіцца ўсю зіму ў натуральных умовах, як і насеньне дзікіх дрэў.

Месца для гэтага лепш выбраць на невялікім схіле , каб вясной быў сток вады. Пасьля таго, як насеньне адтане, яго трэба перамяшаць. Захаванае так насеньне добра ўсходзіць. Пры спробе гэтых трох спосабаў перахоўваньня насеньня ў Горацкім інстытуце лепшыя вынікі даў трэці. Запескаваць насеньне можна і ў палатняным мяшку. Мяшок з запескаваным насеньнем закапваюць ў замярзаючую зямлю.

Р. Гуржы.

(Горкі, с. г. Акадэмія).

---

# Падрыхтоўка пчол к зіме.

Поўная падрыхтоўка пчол к зіме з рэвізаваньнем запасаў мёду павінна быць зроблена ў канцы ліпеня, або ў першай палове жніўня, адразу пасьля заканчэньня галоўнага ўзятку. У той час бывае яшчэ даволі цёплая пагода і ясныя дні.

У залежнасьці ад месца зімоўкі і колькасьць мёду, якую трэба кінуць пчолам, будзе рознай. Напрыкл., тыя пчолы, што зімуюць на адкрытым паветры, патрабуюць мёду шмат болей, як тыя, што зімуюць у спэцыяльных памяшчэньнях—амшаніках. Лічыцца пэўным, што для зімоўкі дужай сям'і на адкрытым паветры патрэбна мёду каля 35 фун. (14 кілёгр.), а для зімуючых у амшаніку мёду ня трэба больш, як 25 фун. (10 кілёгр.).

Важна і тое, каб пакідаемы запас мёду быў разьмеркаваны так, як гэта належыць: каб ён ня быў складзены з аднаго боку вульля; пры гэтым трэба, каб соты з меншымі запасалі мёду былі разьмеркаваны ў сярэдзіне вульля, а з большымі запасамі—з бакоў.

Такі распарадак у вульлі патрэбны дзеля таго, каб пчолам у пэрыод зімняга спакою, калі яны зьбіраюцца ў клубок, не давялося-б сядзець на сотах з мёдам. бо ён зьніжае тэмпэратуру клубка. Самаю дужую сям'ю пчол на зіму можна пакідаць ня больш, як на 8 рамках.

У Даданаўскіх вульлёх клубок пчол пры зімоўцы спачатку разьмяркоўваецца на пустых сотах бліжэй к лятку, а па меры скарыстаньня мёду падымаецца ўверх і рушыцца да задняй старны вульля, а потым пераходзіць на адзін з бакоў і рушыцца к лятку. Загэтым вельмі важна, каб запасы мёду разьмеркаваць так, каб пчолы ў другую палову зімы, калі скарыстаньне мёду павялічыцца, не перашлі на пустыя соты; у такім выпадку можа здарыцца, што пры нізкай тэмпэратуры пчолы пры наліччы мёду ў вульлі могуць загінуць ад голаду.



Зямлянка для зімоўкі пчол.

У вульлёх Лявіцкага і іншых сыстэм з вузкай, але высокай рамкаю, клубок пчол у час зімняга спакою падымаецца ўверх ад лятка да задняе стараны вульля.

У тым выпадку, калі пчаляр не праверыў запасаў мёду ў сваіх пчол перад зімоўкай у цёплыя часы, пчол ня трэба турбаваць разборкай вульля; з лета яны самы зложылі свае запасы у вульлі так, як ім трэба. Толькі познае выманьне мёду з вульля можа зьмяніць правільнае разьмеркаваньне мёду ў вульлі і тады пчолам патрэбна дапамога.

Пустыя бакавыя месцы ў вульлі, калі пчолы будуць зімаваць на адкрытым паветры, закладваюцца сухім мохам або ня вельмі пахучым сенам. Ня трэба закладаць сюды салому, бо на яе пах вельмі квапяцца мышы. Падрыхтаваныя к зімоўцы пчолы павінны мець доступ сьвежага паветра. Для гэтага ў вульлёх здымаюць столі (калі яны былі з кляёнкі або з прафарбованага палатна) і замяняюць іх чыстым палатном; у тых вульлёх, у якіх рамкі стаўляюцца шчыльна, апошнія трэба рассунуць, каб сапсутае пчоламі сырое паветра магло вольна выходзіць. Дны ў вульлёх павінны быць падчышчаны, а ляткі адкрыты насьцеж. Калі ў час апошняга догляду бывае неспагадная пагода, то ў вульлёх Дадана трэба ўзьняць крыху зяднюю старану вульля і адхіліць на адзін вяршок кляёнчатую або



Плян размяркоўваньня вульляў у зямляницы.

праклееную палатняную столь, каб паміж столі і падушкі была шчыліна для праходу ўверх вільгаці; бо нічога ня згубна так для пчол, якія зімуюць на адкрытым месцы, як лішняя вільгаць у вульлі.

Уся падрыхтоўка пчол да зімоўкі павінна быць зроблена хутка, бяз лішняга шуму.

Добра падрыхтаваныя да зімоўкі пчолы з роўным посьпехам могуць зімаваць, як на адкрытым паветрыа, таксама і ў спэцыяльных амшаніках; аднак, у паўночных акругах Беларусі, як Полацкая, Віцебская і Аршанская, лепш пчол ставіць у амшаніках.

У закрытым памяшчэньні пчолы зьдаюць шмат менш мёду, вульлі ня псуюцца ад дажджу, сьнегу і рэзкага ўдлыву тэмпэратуры. У закрытым памяшчэньні лепш бараніць вульлі ад зладзеяў і шкоднікаў. У добрым амшаніку пчолы ня трывожацца, кішкі іх цераз сілу не набіваюцца рэшткамі зьедзенага мёду. Пчолы не хварэюць на пранос; пры добрай вэнтыляцыі амшаніка і вульля ў ім ня бывае ні сырасьці, ні цьвілі.

Памяшчэньнем для зімоўкі пчол могуць быць усе парожнія гаспадарчыя будынкі: хлеў, варыўня, старая лазьня, сухі пограб і г. д., але самымі лепшымі будуць такія, дзе пчолы ня будуць нічым трывожыцца.

Надта шкоднымі пры зімоўцы пчол лічацца мышы. Будуючы памяшчэньне для зімоўкі пчол, трэба глядзець, каб мышы туды не маглі пранікнуць. Каб пралезьці ў вулей, мыш грызе лято́к. Занепакоеныя гэтым пчолы пачынаюць зьядаць шмат мёду, кішкі іх цераз меру набіваюцца, што выклікае пранос. Пчолы пачынаюць апаражняцца ў вульлі на соты, рамкі, мёд, сьценькі вульля. Ад гэтага гіне шмат пчол, а вулей становіцца вельмі брудным.

Самым лепшым памяшчэньнем для зімоўкі пчол лічыцца выкапаная яма, абстаўленая драўляным або цагляным зрубам. У мясцох гарыстых гэткія ямы капаюцца, а на роўных іх робяць насыпнымі. У такім памяшчэньні робіцца выцяжная труба для таго, каб не заводзілася вільгаць (гл. мал. амшаніка і плян разьмеркаваньня ў ім вульлёў).

У амшаніку вульлі ставяцца на лаўкі адзін каля другога ляткамі да праходу, каб зімою можна былораслухаць кожны вулей. Пры разьмяшчэньні ў амшаніку, страха з кожнага вульля павінна быць зьнята, а пакідаюцца толькі столі над рамкамі.

Пераносіць вульлі ў амшанік трэба вельмі асьцярожна, каб пчолы ня былі стрывожаны. Пры гэтым трэба памятаць, дзе стаяў кожны вулей, каб вясной паставіць яго зноў на сваё месца. Ад гэта ня будуць прападаць пчолы пры першым веснавым аблёце.*)

**І. Фэдарака.**

---

*) **Рэд.** У артыкулах аўтара („Плуг“ № 6 і № 8) заўважаны друкарскія памылкі:

| | | | Надрукавана: | Павінна быць: |
|---|---|---|---|---|
| № 6 | стар. 25 | радок 2 зьверху. | маткаю | дзеткаю |
| № 8 | „ 32 | „ 15 „ | 12 дзён | 21 дзен |

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Хлеў для жывёлы—фабрыка гною.

Усім добра вядома, якое вялікае значэньне на нашым падзолістым спустошаным полі мае гной. Сяляне надаюць яму галоўную ролю ў падняцьці ўраджайнасьці. Гной адначасна зьяўляецца самым даступным для селяніна ўгнаеньнем. Часта толькі з-за гною селянін трымае худых, безмалочных кароў.

У сучасны момант роля гною ў гаспадарцы стала яшчэ большай, бо мінэральныя ўгнаеньні часта не па кішэні гаспадару. Лубін-жа і сэрадэля, як зялёнае ўгнаеньне, пашыраны яшчэ мала.

Ня гледзечы на гэта, гаспадар часта вельмі мала клапоціцца аб тым, каб мець больш і магчыма лепшага гною. Фабрыкай гною ў сялянскай гаспадарцы зьяўляецца хлеў для жывёлы. А часта наш хлеў —проста загарадзь без дзьвярэй з вялікімі шчылінамі ў сьценах і пад страхой, праз якія скаціну прадувае ветрам і заносіць сьнегам.

Мерзьне ўзімку скаціна, мерзьне і гной. І толькі наша прывыкшая да ўсяго карова можа яшчэ пераживаць у такіх умовах зіму, хаця і яе прыходзіцца часта падымаць вясной. Лепшая жывёла ў такіх хлявох стаяць ня можа. Але гэтага мала. Ня ўсё добра і з гноем. Гной лічыцца добрым, калі ў ім перагніе салома (падсьцілка). Згніваньне-ж гэта ідзе пры дапамозе мікробаў. Пакуль живы мікробы — будзе йсьці і перагніваньне ў гнаі. Зімою, калі ўсё ў хлеве замярзае, гінуць мікробы і спынаецца перагніваньне гною. Такім чынам, гнаёвая фабрыка ўсю зіму не працуе. Салома толькі крыху перамешваецца з калам жывёлы і ў такім відзе ляжыць да вясны. Гэта можна бачыць з таго, што зімой у хлеве зусім прападае пах, які звычайна бывае пры згніваньні гною.

Толькі вясной, калі ў хлеве зробіцца цёпла і сыравата, аднаўляецца жыцьцё мікробаў і пачынаецца згніваньне саломы. Але зараз-жа гной патрэбна вывозіць у поле. У большасьці і вязуць сяляне, так званы саломісты гной. А даведзена дасьледчымі станцыямі, што карысьць ад такога гною невялікая. У тым-жа выпадку, калі гной заворваецца глыбока, асабліва на цяжкіх грунтох, ад яго можна чакаць нават шкодных вынікаў.

Ёсьць і другія недахопы ў сялянскіх хлявох. Калі хлеў стаіць у нізіне, у яго нацякае вада. Пры лішках вады ідзе дрэннае згніваньне саломы. У коняй-жа ў такіх хлявох зьяўляецца макрэц. У тым-жа выпадку, калі хлеў стаіць на ўзвышшы, з яго выцякае гнаёвая жыжка, а яна зьяўляецца самай каштоўнай часткай гною. Гной прасыхае, ад чаго таксама спыняецца згніваньне саломы.

Наогул, фабрыка гною ў сялянскай гаспадарцы—хлеў ня выклікаў яшчэ належнай увагі селяніна. Гаспадар не заўсёды яшчэ разумее,

што ён сам вінават, а не жывёла. Летам, калі найлепей перарабляецца гной у хлеве, у гаспададара ўжо няма чым падаслаць скаціну. Кал і мача жывёлы дарма трацяцца.

Каб добра працавала гэта вельмі патрэбная фабрыка, трэба зьніштожыць усе недахопы, або пабудаваць для гэтай мэты лепшы хлеў.

Наперад за ўсё трэба правільна выбраць і падрыхтаваць месца для хлева. Звычайна-ж месца трэба больш высокае і роўнае. На пескавых грунтох, каб не працякала гнаёвая жыжка ў глыбіню грунта, патрэбна зрабіць каменны насьціл, зьліты цэментам, або выбіць гліняны ток, як у гумне.

Падмурак трэба ўглыбіць у зямлю, каб лепш трымалася цяплыня і каб перашкодзіць зацяканьню ў хлеў вады і выцяканьню з хлеву гнаёвай жыжкі. Лепшым падмуркам зьяўляецца каменны, ці цэгляны.

Лес, з якога роб цца сьцены хлева, павінен быць даволі тоўстым, бо тонкая сьценка ня трымае ў хлеве цяплыні. Пры канчатковым складаньні сьцен, іх треба прасьцілаць мохам. Сьцены трэба рабіць высокія і дах да іх даганяць шчыльна. Хлеў ня трэба рабіць вельмі прасторным. У больш цесным хлеве лепш трымаецца цяплыня, а скаціна цеснаты не баіцца. Патрэбен толькі парадак у хлеве, каб скаціна не калолася і не адбірала корм адна ў другой.

Ціплы хлеў патрабуе яшчэ шчыльных дзьвярэй і столі. Столь робіцца з дошчак, аполкаў, ці расьпілаваных на дзьве часткі тонкіх бярвеньняў. На столь зьверху насыпаюць пясок. альбо кладуць туды запасы корму (сена, салому). У апошнім разе ўсе шчыльны ў столі трэба замазаць глінай. Сяляне часта робяць столь з жэрдак, на якія кладуць сена ці салому. Для цяплы і ў хлеве і гэта добра, але такое сена ад паху ў хлеве становіцца горкім. У хлеве патрэбна зрабіць вокны. У асветляным хлеве скаціна весялей і здаравей сябе адчувае.

Такі выгляд добрага, цёплага хлява. Ён задаваляе ўсе патрэбы скаціны і адначасна зьяўляецца добрай фабрыкай гною. Ад цяплыні жывёлы ў хлеве бывае даволі цёпла. Ад мачы гной сыраваты. У працягу ўсяе зімы ў гнаі жывуць мікробы; салома і падсьцілка перагніваюць. К вясне гной становіцца аднастайным, а такі-то гной і патрэбен для ўгнойваньня поля.

Пры такім хлеве гаспадар павінен толькі клапаціцца аб тым, каб у хлеве ня было занадта мокра, для чаго павінен сваячасна класьці новую падсьцілку. Руплівы гаспадар аб гэтым думае загадзя. Калі ў гаспадарцы мала саломы, дык трэба з лета яшчэ прырыхтаваць сухога торфу. Ён, як падсьцілка, добра ўбірае ў сябе гнаёвую жыжку. Акрамя таго, і ў торфе ёсьць даволі многа пажыўных для расьлін матэрый. Разам з саломай перагнівае і торф. Тарфяністы гной вельмі багаты і сакавіты, а здабыць яго руплівы гаспадар можа вельмі многа. Гэта лепшы гной, які магчыма прырыхтаваць. Замест торфу ў падсьцілку можна класьці лясныя лісьці, сухі бульбоўнік, ржэўнік і г. д. Усё пераробяць мікробы ў добры гной.

Пабудова цёплага хлева дае відавочную карысьць у параўнаньні з халодным. Гаспадар хутчэй павінен зьнішчыць у сябе халодны хлеў, як заразу, якая губіць усю яго гаспадарку і ладзіць цёплы хлеў.

**П. Рагавы.**

# Завадзкая скаціна Бутырскага хутара.

(*Масква*).

У вярстох трох ад Масквы, на невялічкім узгорку, у зелені шырока раскінуўся Бутырскі хутар*).

На хутары ёсьць скотны двор, дзе сабраны амаль самыя лепшыя завадзкія каровы. Студэнты Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі адбываюць тут сваю практыку.

Вось сюды і прыехалі на экскурсію, скончыўшы вучэбную летнюю працу, студэнты б. Менскага с.-г. інстытуту.

У гутарцы з загадчыкам скотнага двара яны знаёмяцца з усім, што бачаць перад сабою на хутары.

— Колькіх парод у вас каровы?—запыталі студэнты.

— У нас тут ёсьць швіцы, гарбатаўкі яраслаўскі і звычайная вялікаруская жывёла. Вось гэты рад, як бачыце, увесь з адных швіцаў. Ён аддзяляецца ад іншых кароў і па масьці, і па ўзросту, і ўсім наогул.

— А колькі малака ў год даюць каровы гэтае пароды?

— Малака яны даюць багата. Вось гляньце на гэту карову (яе завуць „Лена“). Яна дае нам за год 512 вёдз. малака.

— Але-ж мабыць ня ўсе гэтак даюць?

— Праўда, ня ўсе; але калі вы возьмеце і другіх швіцаў, дык маеце ад іх 400-450 вёдз. малака. Гэта скаціна першым ацёлам дае ня менш, як 250 вёдз., а чым далей, тым удой яе будзе павялічвацца.

— А якая вага вось гэтае каровы?

— Вага яе да 40 пуд. Швіцы наогул грузная скаціна і іх вага прыблізна 35-40 пуд. Вось вы зьвярнеце ўвагу на агульны склад каровы—плечы, грудзі, зад. Усё роўнае, моцнае; якія шырокія грудзі і зад; сама яна ў добрым целе.

— А ня шкодзіць яе малочнасьці тое, што яна такая сытая?

— Не, ніколькі. Вось вам яскравы прыклад. Швіцы ўсе ў добрым целе, а даюць малака ў год да 512 вёдзер. Гэтая скаціна мяса-малочная. Яе можна адкарміць на мяса, а можна і даіць малако. Гэтая скаціна прывыкае да усялякіх умоў жыцьця; яе можна разводзіць усюды.

— Ну, пакажэце нам другую пароду.

Добра, вось тут стаяць гарбатаўкі. Яны ростам шмат меншыя за швіцаў, ды й склад іх зусім другі. Вось паглядзеце, іх скура шмат танейшая, косьці таксама; ды яны і ў горшым целе. Гарбатаўкі хаця і меншыя, але добрыя кароўкі.

— А колькі яны даюць малака ў год?

Сярэдні ўдой гэтае пароды 200-250 вёд. у годз. Гэтая скаціна на мяса ўжо ня выгадна.

— А ці можна-б было павялічыць удойлівасьць гэтых кароў?

Бязумоўна можна, трэба толькі адбіраць больш малочных кароў і злучаць іх з быкамі таксама ад малочных кароў; ад іх прыплод выходзіць больш малочным. К гэтаму павінен быць і добры догляд каровы. Трэба ў меру даваць корму, а ў хлеве каб было чыста, цёпла, без вялікага смуроду і г. д. У нас, бачыце, падлога з цымэнту. Кожны дзень яна чысьціцца і скаціна ніколі не стаіць у гразі. Гэта справа часу шмат не адбірае.

---

*) Назва „Бутырскі“ добра знаёма рэволюцыйным барацьбітом, бо ў б. Бутырскай турме ні аднаму давялося пасядзець.

— А гэта ярослаўская скаціна?

Але. Па масьці яны адменны і ад швіцаў, і ад гарбатавак. Гэтыя каровы на выгляд як-бы яшчэ худзейшыя за гарбатавак. Яны выглядаюць надта далікатнымі. І гэта так, іх косьці тоненькія і слабыя, а скура тонкая, як папера. Самы яны наогул худаватыя.

— А па малочнасьці яны лепшыя за гарбаватак ці не?

— Іх можна лічыць лепшымі. Малака яны даюць ад 200-300 вёдз. у год. Адна дае больш, другая менш.

А цяпер хадзем паглядзім нашу вслікарускую карову. Бачыце, якая яна худая, касьцлявая, на погляд брыдкая і малака дае нямнога.

— А нашто вы яе трымаеце?

— Для вопыту. Мы злучым яе з завадзкім быком і паглядзім, што з яе дзяцей будзе.

А гэта—нашы бугаі. Гэты чысты швіц. Ён важыць 59 пуд., яму 5 год. Бачыце, які ён удалы на погляд. А гэта малады швіц. Яму ўсяго 18 м-цаў, а важыць ён 35 пуд.

— А якія гэта ў вас бугаі крыху не падобныя да швіца?

— Вось гэты нарадзіўся ад яраслаўкі і швіца, а гэты ад гарбатаўкі і швіца. Вы самы ўжо сказалі, што яны не падобны да швіцаў. Правільна. Яны менш грузныя і больш сухія. Гэта надта добрыя бугаі для сялянскіх кароў.

— А колькі ў вас усіх кароў?

— Дойных 108 штук, ёсьць і цяляты.

— А куды ідзе малако?

— Прадаем у Маскве. Мы прадаем малако у паўтара разы даражэй, а здаволіць попыт ня можам.

— Як сялянам палепшыць сваю скаціну?

— Адчыняць злучныя пункты, дзе былі-б добрыя завадзкія бугаі. Прыплод ад простай маткі і заводзкага бугая будзе ўжо мець $^1/_2$ завадзкой крыві. Злучыўшы яго зноў з завадзкім бугаём атрымаем прыплод яшчэ больш блізкі да заводзкой каровы і г. д.

Трэба толькі больш шчыра ўзяцца за гэту справу і бязупынку штурхаць яе ўперад. Сяляне самі павінны гуртавацца ў таварыствы і разам набываць завадзкіх быкоў.

Далей экскурсанты падзяковалі таварышу за тлумачэньні і пашлі.

У галаве кожнага засядае думка, што кожны з нас павінен быць штурхачом у гэтай справе.

**Хвалей.**

# Мясны, ці бэконны выкарм сьвіней і яго выгады.

Ёсьць тры спосабы выкарму сьвіней: мясны, мяса-сальны і сальны.

| Характар выкарму. | Узрост свіньні. | Вага выкармленай сьвіньні. |
|---|---|---|
| 1. Мясны | 5-8 месяцаў | 4,5-6 пуд. |
| 2. Мяса-сальны | Каля 1 году | 5-9 „ |
| 3. Сальны | Звыш 1 году | |

У Беларусі больш пашыраны сальны напрамак выкарму, для якога прыгодны ўсе сьвіньні і ў тым ліку наша мясцовая парода сьвіней.

У нас выкармліваюць сьвіней на ўсялякіх вобмешках, пасыпках і бульбе, а гэтакі спосаб выкарму зьяўляецца малапрыбытковым, хаця самі гаспадары мо' і ня ведаюць гэтага, бо яны не падлічваюць корм, які страўляецца сьвіньнямі.

Белсельтрэст мяркуе ў гэтым годзе пабудаваць, *бэконную фабрыку*, на якой будуць вырабляць бэкон—г. зн. такую маласольную сьвініну, якую ядуць найбольш у Ангельшчыне; бэкон гэты мы будзем вывозіць за граніцу па добрай цане.

Гэта мерапрыемства дае магчымасьць палепшаньня сьвінагадоўлі, але ў той-жа час яно ставіць перад нашымі гаспадарамі задачу—выкарм сьвіньні *бэконнага тыпу*. Каб выраблять такі дарагі тавар, на фабрыцы для гэтае мэты трэба мець асобныя прылады і вялікія халадзільнікі, а другое, добра ўзгадаваных і правільна адкормленых сьвіней. Мяса выкармленай на бэкон сьвіньні павінна быць мяккае, дробна-валакністае, з цянюткімі слаёчкамі сала; самае-ж сала павінна быць шчыльным і белым. У сьвіной тушы трэба каб было мяса больш, чым сала; слой-жа сала на сьпіне не таўсьцей 3 см. (3/4 вярш.).

Як мяса, так і сала не павінна аддаваць чым небудзь. Найбольш цэнныя часткі сьвіньні бэконнага тыпу—гэта бакі і карак. Дзеля гэтага сьвіньня павінна мець даўгаватае цела, глыбокія стромкія бакі, вузкія і лёгкія кумпякі і лапаткі; лёгкі, мясісты карак, роўную сьпіну і ў ніякім разе ня можа мець абвіслае чэрава. Жывая вага адкормленай сьвіньні павінна быць 4,5-6 пуд.; туша забітай ад 3,5 да 4,5 п., а ўзрост сьвіньні не старэй 10 мес.

Найбольш прыгоднымі для выкарму бэконнага тыпу будуць вялікія белыя ангельскія сьвіньні (культурная парода), альбо мешанцы простых сьвіней з культурнымі.

Калі простыя сьвіньні памешаны з культурнымі, то ўжо ў першым пакаленьні яны прыгодны для бэкону, калі іх добра ўзгадаваць і правільна выкарміць. Разводзячы такіх сьвіней, сяляне будуць прадаваць іх бэконнаму заводу для пераробкі ў дарагі тавар—бэкон.

Бэкон павінен мець вялікі процант мяса; дзеля гэтага парасят трэба гадаваць так, каб яны як найбольш былі на волі. Бо вядома, што мускулы павялічваюцца, робяцца мацнейшымі і таўсьцейшымі толькі ў маладым веку. Калі парасяты затрымаліся ў росьце, то гэта бывае ад дрэннай гадоўлі; і як-бы потым іх не кармілі, яны ўсё роўна ня будуць добрымі.

Для 3-4 пудовае сьвіньні дацкія спэцыялістыя раяць такія нормы пры выкарму:

| №№ | Ячменю. | Зьбіранага малака | Сыроваткі. | Буракоў. | Бульбы. | Масьлёнкі. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1,5 фун. | 18 фун. | — | — | — | — |
| 2 | 3 „ | 9,25 „ | — | — | — | — |
| 3 | 0,5 „ | 15 „ | — | 10,5 фун. | — | — |
| 4 | 1,5 „ | 16,5 „ | — | — | 7 фун. | — |
| 5 | $2^2/_3$ „ | — | 30 фун. | — | — | — |
| 6 | 1,5 „ | — | 33 „ | — | 7 фун. | — |
| 7 | 3,5 . | — | 21 „ | — | 7 „ | — |
| 8 | 3,5 „ | $10^1/_2$ фун. | — | — | 7 „ | — |
| 9 | 4 „ | — | 8 фун. | — | — | 1 фун. |
| 10 | 3 „ | — | 8 „ | 9 фун. | — | 1 „ |

Проф. Куляшоў раіць норму з большаю рознастайнасьцю моцных кармоў.

| №№ | Бульбы | Ячмен. дзерці. | Ячмен. высев. | Зьбіран. малака | Ячмен. мукі | Аўсянкі | Макухі | Высевак | Аўса паран. | Ячменю | Буракоў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 4 ф. | 1,5 ф. | 1,25 ф. | 10 ф. | — | — | — | — | — | — | — |
| 2 | 3 „ | — | — | 16 „ | 2 ф. | — | — | — | — | — | — |
| 3 | 3 „ | | — | 10 „ | 2 „ | 1 ф | 0,5 ф. | — | — | — | — |
| 4 | 4 „ | — | — | 10 „ | — | — | — | 2 ф. | 1 ф. | — | — |
| 5 | 4,5 ф. | — | — | — | — | — | — | 1 „ | — | 4 ф. | 2,5 ф. |

На 100 ф. жывое вагі з пачатку выкарму патрэбны 4-5 кармовых адзінак і ў канцы выкарму 4-3,5 карм. адз.

Гэтыя нормы выкарму, вядома, не зьяўляюцца абавязковымі і іх можна розна меняць, але ўсё-ж такі гаспадар, які выкармлівае сьвіньню, павінен уважліва сачыць за тым, як сьвіньня есьць корм і гледзячы на тое павялічваць ці зьмяншаць колькасьць корму.

Каб ведаць, ці ёсьць прыбытак ад выкарму, кожны гаспадар павінен уважліва падлічваць страўлены корм і цікавіцца прыростам сьвіньні, дзеля чаго час-ад-часу сьвіньню важыць. Нормальны прырост пры выкарме бэконнага тыпу бывае 400—700 гр. (1—1²/₃ фун.) у дзень, а ў першы месяц пасьля адняцьця парасят ад сьвіньні да 300 гр. (³/₄ фун.)

Абы як даваць корм сьвіньням ня можна. Малако парасятам трэба грэць да цяплыні цела, зярно трэба дзерці і троха змачваць вадой, бульбу даваць варанай ці паранай.

Дабаўка да корму мінэральных парашкоў (касьцяное мукі, солі, вапны, попелу) робіць добры ўплыў на рост сьвіньні і яе стравараньне. Вапны і солі досыць даваць 4 гр. на падсьвінка ў дзень. Калі сьвіньням даюць памыі, то солі даваць зусім ня трэба.

Перамены, якія робяцца ў кармовых нормах, трэба рабіць не адразу. Корм добра даваць 3 разы ў дзень, а ў канцы выкарму— 4 разы. Трэба глядзець, каб і карыты былі чыстыя і заўсёды іх ачышчаць ад астачы корму, а гэтак-жа сачыць і за чыстатой самых сьвіней (калі зьявяцца вошы, сьвіней трэба мыць альбо націраць мешанінай газы са шкіпідарам ці разведзенай у вадзе сулямой 1:1000). Націраць трэба праз кожныя 4-5 дзён.

Урэшце, прывяду падрахунак, з якога відаць выгады мяснога выкарму ў параўнаньні з мяса-сальным.

| Выкарм бэконнага тыпу. | | Выкарм мяса—сальнага тыпу. | |
|---|---|---|---|
| Кошт 1 парасяці . . | 50 к. | Кошт 1 парасяці . . . | 50 к. |
| Кошт корму парасяці да 3,5 мес. . . | 6 р. 12 к. | Кошт корму 8 мес. . . | 13 р. 11 „ |
| Выкарм ня больш 100 дзён | 8 „ 83 „ | Выкарм ня менш 100 дз. | 24 „ 36 „ |
| Разам | 15 р. 45 к. | Разам | 37 р. 97 к. |
| Вага выкармленай сьвіньні . | 5 пуд. | Вага выкарм. сьвіньні . | 8 п. |
| Пералічыўшы ўсе кармы па іх спажыўнай цэннасьці на зярно, маем агульную колькасьць зярна . . . | 21 п. 15 ф. | Агульная колькасьць зярна | 52 п. 13 ф. |
| На прырост 1 фун. сьвіньні пашло 4,5 ф зярна. Кошт 1 ф. сьвініны 7,7 кап. | | На прырост 1 фун. сьвініны пашло 6,6 ф. зярна. Кошт 1 фун. сьвініны 11³/₄ кап. | |

Выкарм сальнага тыпу (дарослых сьвіньней) патрабуе яшчэ больш зярна на 1 фунт. прыросту (да 7-8 ф. зярна).

Чым маладзей сьвіньня, тым лепш яна аплачвае страўлены корм. Параўнаўшы вынікі вышэйпаказанага падрахунку мы бачым, што сьвіны продукт пры выкарме мяснога тыпу разы ў паўтары дзешавей, чым пры выкарме мяса-сальным.

Апрача ўсяго, пры выкарме мяснога тыпу, мы маем яшчэ адну выгаду: капітал абарачваецца хутчэй і гаспадар мае менш страху, што сьвіньня захварэе, бо пры сальным выкарме сьвіньні жывуць 2 гады, часта больш і часьцей гінуць ад сьвіных хвароб.

Калі да ўсяго гэтага яшчэ дадаць, што цэны на бэкон вышэйшыя, чым на іншыя продукты сьвінагадоўлі, то карысьць мяснога выкарму відаць адразу, толькі справа гэта патрабуе шмат увагі і клопату.

*Зоотэхнік* **С. Сапрыкіна.**

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ.

## Золзы ў каня.

Крыху падобнаю да насацізны*), але зусім іншаю па сваёй сутнасьці хваробаю, зьяўляюцца, так званыя, золзы ў каня.

Золзы бываюць толькі ў аднакапытных жывёл (як і насацізна); у рагатае-ж скаціны, сьвіней, сабак і ў інш. свойскае жывёлы іх ня бывае. Звычайна золзамі хварэюць маладыя коні, па 2—5 гаду, хоць часамі здараецца, што на золзы хварэе і больш стары конь, калі ён змоладу не залзаваў. Вядома толькі, што калі конь у сваім часе перазалзаваў, то ён ужо забясьпечаны ад гэтае хваробы на шмат год, а то і на ўсё сваё жыцьцё. Таксама вядома, што на золзы хварэе змоладу амаль што кожны конь, асабліва жарабяты; цяжка бывае засьцерагчыся, каб не заразіць іх гэтаю хваробаю.

*Прычынаю золзаў* зьяўляюцца асобныя мікробы, падобныя да ланцужка, зложанага з паасобных кропак (Гл. мал.).



Мікроб залзаў у каня.

Гэткі мікроб знаходзіцца галоўным чынам у сьлізі і матэрыі, якія выцякаюць у хворага каня з носу, з апухшых пад сківіцаю залоз.

Разносіцца гэта зараза надта лёгка праз розныя рэчы, якія забруджаны гэтаю сьлізьзю альбо матэрыяй, напр. праз жалабы, вёдры, корм, пойла подсьцілку, сьцены, падлогу стайнь і нават праз паветра ў стайні і праз вопратку людзей, якія ходзяць каля хворых коняй і даглядаюць за імі. Зараза, якая вылятае пры кашлі і пырханьні з носу хворых, высыхае і потым з паветрам трапляе ў нос ці горла здаровым коням і выклікае ў іх золзы.

Найчасьцей у гаспадарку золзы трапляюць праз набытых хворых коняй і жарабят, якія яшчэ добра не паправіліся пасьля гэтае хваробы.

*Адзнакі золзаў.* Спачатку захварэўшае жарабя робіцца млявым, сумным, у яго зьмяншаецца ахвота да яды і зьяўляецца катар носу. Гарачка ў яго падвышаецца да 40—41°. Дні праз 3—4 з носу пачынае цячы сьлізістая матэрыя. Залозы пад сківіцаю апухаюць, вопух хутка павялічваецца, робіцца гарачым і балючым пры датыканьні да яго; ча-

*) Гл. „Плуг“ № 8.

самі такі вопух пашыраецца на горла і пад самае вуха, дзеля чаго хворы конь трымае галаву нярухома і стаіць выцягнуўшы яе ўперад (гл. мал.на стар. 38).

Спачатку вопух бывае цьвердаваты, а потым, праз колькі дзён ён мякчэе і ў ім робіцца верад; верад гэты прарывае і з яго выцякае густая, як сьмятана, матэрыя. Хворае жарабя, пакуль вопух не прарве, праз боль ня можа есьці дзеля таго, што запаленьне пашыраецца на горла і яно ад болю ня можа глытаць; таксама, з прычыны пашырэньня запаленьня на горла, хворае жарабя пачынае кашляць.

Пры добрым доглядзе, у цёплым хлеве і пры пэўнай вэтэрынарнай дапамозе, праз 2—4 тыдні хворы конь звычайна папраўляецца. Але часамі пры недаглядзе, або калі золзы застудзяцца, альбо калі зараза праз кроў перакінецца ў сярэдзіну, хвароба можа зацягнуцца, жарабя зьнясіляецца і можа нават здохнуць. Старэйшыя коні наогул лягчэй пераносяць золзы, чымся маладыя жарабяты. Таксама і ўлетку коні хварэюць на золзы шмат лягчэй, чым зімою, калі на дварэ холадна і золзы лёгка застудзіць.

## Адліччы золзаў ад насацізны.

| Пры золзах. | Пры насацізьне. |
|---|---|
| Матэрыя з носу шэраватага колеру, потым робіцца зялёнаватаю, цячэ з *абедзьвюх* ноздраў. | Матэрыя бруднага колеру часта з крывёю, засыхае па краёх носу і выцякае найчасьцей з аднае *ноздры*. |
| Вопух залоз пад сківіцаю шырокі, няцьвёрды, балючы і гарачы. | Гузак пад сківіцаю невялікі, з яйка, цьвёрды, небалючы; часьцей бывае з аднаго боку. |
| Цягнецца хвароба праз 2—4 тыдні. | Цягнеца хвароба праз некалькі месяцаў і нават год. |

*Лячэньне золзаў.* У добрым, прасторным будынку, дзе цёпла і дзе хворы конь ня можа застудзіцца, хвароба праходзіць лёгка і правільна, і ніякага надзвычайнага лячэньня, апрача дыэты і лёгкага харчу, не вымагае. Карміць хворых патрэбна добрым сенам, а ўлетку і сьвежаю травою з сечанаю морквою, буракамі; пойла даваць цеплаватае з мукі альбо з высевак; авёс хвораму зусім не даецца; ваду даюць таксама летнюю. На вопух карысна рабіць цёплыя компрэсы, альбо прыпаркі з трухі; а калі баяцца застудзіць золзы ў халодным хлеве зімою, то ўціраюць у вопух камфорную мазь (1 частка камфары на 9 частак алею), ці шэрую мазь (прадаецца ў аптэках гатовая), альбо проста змазваюць вопух мёдам ці несалёным жырам папалам са шкіпінарам і абвязаць чым-небудзь цёплым, найлепей аўчынкаю. Калі вопух праз некалькі дзён разьмякне і зробіцца верад, яго патрэбна пра-

пусьціць чыстым ножыкам, не чакаючы пакуль само прарве; тады папраўка йдзе хутчэй. Прапусьціўшы верад, яго трэба прамываць 2 проц. карбоўкаю альбо крэалінам. Проці катару лёгкіх, пры моцным і цяжкім кашлі, даюць штодня па 2 лыжкі з кормам гэткую мешаніну з парашком: карлсбадзкае солі (1 частку), парашку з ягад ялаўцу і парашку анісу (па 1/2 часткі); зьмяшаўшы разам, даюць па 2 лыжкі на



Пад сківіцаю залозы павялічаны аж пад горла.

дзень; можна даваць і адну карлсбадзкую соль, калі нічога другога пад рукамі няма; таксама карысна ставіць перад носам каня гарачую ваду, каб ён удыхнуў пару.

Здаровых коняў трэба аддзяліць у асобнае месца, карміць і паіць таксама асобна ад хворых, а хлеў пасьля хворых належыць пабяліць вапнаю і добра праветрыць.

Наогул, чыстае паветра і сонца спрыяюць здароўю жывёлы, дзеля чаго карысна падбаць аб чыстаце паветра ня толькі ў стайні, але пры цёплай пагодзе карысна трымаць хворых больш на сонцы і на вольным паветры.

Н. Серада.



# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Капусная кіла і барацьба з ёю.

*(Назіраньні Я. Марозъ з Фатыні).*

8 лютага 1925 г. быў у мяне барысаўскі агроном Роўда, які ўзяў насеньне нашай балакачанай беларускай капусты дзеля спробнага засеву. У Лепельшчыне гэтым сортам капусты сяляне карыстаюцца больш, чым другімі. Таксама і ў некаторых паўднёвых губэрнях Расіі прамысловыя гароды выпісвалі насеньне гэтай капусты. Добры водзыў аб ёй даў мне і М. В. Рытаў (1916 г.); але часы мяняюцца.

11-га кастрычніка г. г. зноў быў у мяне агроном Роўда (на гэты раз ён узяў у мяне сотню прышчэп для сада ў Барысаве). На маё пытаньне, як расьце ў вас наша капуста, агроном адказаў: „Нажаль, ваша капуста горш ад усіх сартоў заразілася капуснай кілой“. Гэту думку падкрэсьлівалі яму і іншыя агрономы, якім ён даваў наша насеньне. Вышла тое, што шматгодняя праца па выбару і палепшаньні гэтага сорту капусты для нашае мясцовасьці загінула; як кажуць, далі мядаль з гнілой рэпы.

Я хачу пазнаёміць чытачоў „Плуга“ з маімі вопытамі па барацьбе з капуснай кілой.

У Фатыні на адным вучастку гароду, дзе садзілі капусту, на адным месцы капуста заражалася кілою. Вясной 1905 г. каля гэтага вучастку капалі канаву і зямлю ад канавы раскідалі далей па полі. Вышла так, што дзе была раскідана зямля, капуста захварэла кілою. У поўдзень хворыя расьліны вялі. Гэта было прыметна кожны дзень. 17 ліпеня 1905 г. ў поўдзень завяўшую капусту павырывалі з зямлі і вечарам на яе месца пасадзілі здаровую расаду. Пры гэтым дзеля вопыту рабілі так: на двух гранках у ямкі пры пасадцы новай расады сыпалі па шклянцы попелу, на дзьве другія гранкі па сталовай лыжцы сьвежа-гашанай вапны, а на трэцяй пары гранак пад кожную расьліну пасыпалі па жмені такой мешаніны: і вядро перагною, 4 шклянкі вапны і 1 шклянку газы*). Перад пасадкай расады гэту мешаніну трэба добра перамяшаць з зямлёю, а пасьля пасадкі расаду паліць і на другі дзень раніцою прыцяніць, палажыўшы на кожную расьлінку па жмені травы. Здымаецца трава праз 5—6 дзён.

Калі няма перагною, то ў мешаніну можна браць компост або торф. Тут патрэбна, каб газа добра перамяшалася з зямлёй. Кожная расьліна ў нашым вопыту была зазначана. Увосень былі такія вынікі: 1) там, дзе нічога не падсыпалі, было шмат хворай капусты; 2) гранкі з падсыпанаю залой захаваліся лепш, але кіла таксама была; 3) гранкі, дзе была вапна, яшчэ лепш захаваліся. Частка расьлін была зусім здаровай; 4) там-жа, дзе была мешаніна перагною, вапны і газы, усе расьліны капусты мелі здаровыя карэньні.

---

*) Састаў добра перамяшалі.

На працягу 20 год я карыстаюся сам і раю другім гэты спосаб барацьбы з капуснай кілою.

Звычайна, гэты спосаб барацьбы з капуснай кілою можна прымяніць там, дзе капуста сядзіць на роўным вучастку радкамі на аршын адзін ад другога (у квадрат). Калі-ж капуста захварэла позна і слаба, то яшчэ асыпаньнем можна дапамагчы расьлінам у барацьбе з хваробаю. Пры гэтым пасьля асыпаньня вырастаюць новыя карэньні, якія і падтрымоўваюць рост капусты. Здараецца, што яна дае добры качан. Але хто садзіць капусту ў гранкі або на градах, то тут ужо нельга асыпаць яе ўдоўж і ўпоперак і дапамагчы захварэўшай капусьце трудна. Гэты вопыт, праведзены мною на глiністым гародзе. На пяскох мо' трэба іншую колькасьць газы.

Я. Мароз.

(Хут. Фатынь).

---

# Як гаспадары сяла Бракава пачалі вясьці гаспадарку па новаму.

(*Магілёўскі раён*).

Доўгі час трымаліся Бракаўцы старых звычаяў вядзеньня гаспадаркі. Мала хто ведаў, што гэта за шматпольле, лубін, канюшына і г. д. Ва ўсім сяле ня было ніводнага гаспадара, які будаваў-бы гаспадарку па новаму і быў-бы прыкладам для іншых сялян.

Так было ў нас да 1922 г. Але земляўпарадкаваньнем Савецкая ўлада кінула прамень і на наша сяло. У нас назначылі с.-г. курсы (двухтыднёвыя). Прыехалі да нас агрономы-выкладчыкі па паляводзтву, жывёлагадоўлі, пчалярству і садоўніцтву.

З першага разу на гэтыя курсы сяляне йшлі ня дужа ахвотна. Але далей пачалі разумець карысьць іх і сталі ўважліва слухаць лекцыі.

Кончыліся курсы. У некаторых сялян паўстала думка, як адбудоўваць свае гаспадаркі па новаму, але тут было шмат перашкод (празпалосіца, вузкапалосіца, далёказямельле). Кучка гаспадароў пачала бударажыць сяло, каб правесьці земляўпарадкаваньне. Шмат каму гэта навіна не падабалася. Але нашы перадавікі (Антось Масяёнак, Лявон Цюльмянок, Антось Тарасенка) тлумачылі бедакам карысьць земляўпарадкаваньня, тыя хутка зразумелі, што гэта справа дапаможа ім у жыцьці.

Засталося некалькі багацейшых сялян, якія былі ня згодны з жаданьнем большасьці, але ўжо нічога зрабіць ня мелі сілы. Хутка прыехалі да нас каморнікі і агроном; пагутарылі з сялянамі, і каморнік шчыра прыняўся за працу. К восені скончыў ён сваю працу.

Кожнаму селяніну далі кавалак зямлі, на якім ён мог працаваць самастойна.

Вось з гэтага часу кожны селянін пачаў уводзіць у сваёй гаспадарцы што-небудзь лепшае, культурнае. А к сёнешняму дню ўжо ёсьць шмат вынікаў (іх тут усіх не падлічыш).

Тыя сяляне, якія праслухалі курсы, пачалі прымяняць свае веды на практыцы. Пачалі пераходзіць да шматпольля (гаспадары Тарасёнак Трахім, Сівакоў Аляксандра, Станкевіч Міхась, Тарасёнак Паўлюк і выселак „Дубрава“ ўвялі шасьціпалёўку).

Некаторыя гаспадары пачалі сеяць лубін на ўгнаеньне. Цяпер ужо шмат дзе на полі бракаўскага селяніна можна ўбачыць лубін.

*Што рабілі з балотам.* Ёсьць у нашым сяле дзесяцін 120 балотнае сенажаці, па якой у другіх мясцох нельга ня толькі праехаць, а нават і прайсьці. Шкода, што яшчэ ня ўсе зразумелі карысьць ад асушанага балота. А прыклады ўжо ёсьць. Так, Тарасёнак Трахім, Мялешка Адам, Масяёнак Аўсей, Цюльмянок Лявон і Піліп правялі на сваіх вучастках удоўж і ўпоперак канавы. За кароткі час балота значна высахла і цяпер на тых вучастках, дзе нельга было прайці, можна ехаць з возам.

Праца зробленая гэтымі сялянамі пачала цікавіць гаспадароў, якія маюць такую-ж мокрую сенажаць.

Адным чынам, за палепшаньне сенажаці бракаўцы ўзяліся шчыра. Пачалі іх угнойваць гноем, скародзіць, зразаць куп'ё і г. д.

На полі сяляне пачалі пашыраць травы; ужо кожны гаспадар завёў канюшыну, заняты папар, дзе сеюць выка-аўсяную мешаніну.

Сёлета можна было бачыць амаль ня ў кожнага гаспадара кавалачак канюшыны, застаўленай на насеньне. Некаторыя заставілі яе з атавы (чакаем вынікаў).

За апошния два гады Бракаўцы старанна ўзяліся за куплю добрых сартоў насеньня, пачалі сеяць *пшаніцу-зімку, лён-даўгунец, шацілаўскі авёс* і інш. расьліны.

Ня ўбачыш ужо ў бракаўцаў бараны з драўлянымі зубамі, няма і сахі. У кожнага барана з жалезнымі зубамі, а некаторыя маюць плугі Сака. Пружыноўкай карыстаецца амаль кожны селянін.

Бракаўскія гаспадыні маюць добрыя гароды (напрыклад Мар'я Цюльмянкова, Натальля Тарасенкава). У іх заўсёды гародніны хапае ня толькі для сябе, але і на продаж.

Ня скора прышлі-б да гэтага гаспадары сяла Бракава, каб не рэволюцыя. Савецкая ўлада дапамагла правесьці ў нас зямляўпарадкаваньне, дала сродкі на курсы па сельскай гаспадарцы і галоўнае дапамагла крэдытам. *)

с. Бракава. **Міхась Тарасенка.**

---

# Даходнасьць бульбы ў сельскай гаспадарцы.

*(Падлікі селяніна).*

На сваёй практыцы я хачу даць прыклад, якую вялікую ролю мае бульба ў сельскай гаспадарцы.

У гэтым 1925 г. я сабраў ураджай бульбы 1000 пуд. з аднае дзесяціны. Сорт Сілезія. Севазварот у мяне чатырохпольны**).

---

*) Вельмі цікава, што аўтарам гэтага артыкулу зьяўляецца малады селянін с. Бракава, які ўжо і ў сваёй гаспадарцы зрабіў шмат культурнага. Аўтар артыкулу лічыцца падпісчыкам часопісі „Плуг“. Вось што піша нам Міхась Тарасенка. „З таго часу, як я стаў палучаць часопісь „Плуг“, я зусім перарадзіўся. Я ўжо паставіў па яго савету некалькі вопытаў з штучным угнаеньнем, узараў у жніўні поле пад ярыну і інш. Шмат у мяне ёсьць думак аб палепшаньні гаспадаркі, але пакуль што зрабіць усяго нельга. Хачу пашырыць палявыя вопыты, насадзіць сад і г. д. Залічэце мяне сваім дапісчыкам. Я буду пісаць аб сваіх дасягненьнях. З пашанай—селянін М. Тарасенка“. А ці адзін гэта селянін? **(Рэд).**

**) Адна зьмена—папар чысты і заняты канюшынай, выкай з аўсом на корм і лубінам на ўгнаеньне. Другая—жыта і пшаніца зімка. Трэцяя—бульба, выка і гарох на зярно. Чацьвёртая—ярына (авёс, ячмень, пшаніца-ярка і лён).

Папар чысты думаю зусім зьвесьці. (П.)

Кожная зьмена мае 2 дзес., а бульба займае 1 дзес. (палову зьмены); значыць, пры чатырохпольлі бульба прыходзіць на старое месца толькі на восьмы год. Такім чынам, гэты севазварот дае мне свабоду ў падборы і разьмеркаваньні расьлін, як і васьміпольны, але мае вельмі просты чатырохпольны ўзор.

Бульбу я саджу ў аржоньні. Дзеля гэтага поле на зіму трэба даволі рана і глыбакавата ўзараць (загоны лепш шырокія). Вясною рана поле скароджу, а як настане цёплая пагода важу на дзес. вазоў 60 гною і саджу бульбу пад плуг. Праз два-тры тыдні поле барануюю, а як зьявяцца першыя ўсходы (вызначацца радкі), абворваю бульбу звычайным плугам і яшчэ раз барануюю (у два сьляды бараны).

Як бульба падымецца на 2-3 вярш., трэба асыпаць яе плужком, а праз 10-12 дзён яшчэ раз і калі трэба, то й трэці раз асыпаю перад самым красаваньнем.

Цяпер падлічу даходнасьць бульбы і параўнаю гэта з жытам, пад жыта таксама вывезена 60 вазоў гною. Я ўсё пераводжу на грошы.

На 1 дзес. бульбы патрэбна.

| Расход: | | |
|---|---|---|
| Гною 60 воз | 30 | руб. |
| Насеньня 100 пуд. | 40 | „ |
| Скарадзьба | 3 | „ |
| Вываз гною | 10 | „ |
| Баранаваньне | 3 | „ |
| Першае абворваньне і баранаваньне | 3 | „ |
| Першае і другое асыпаньне | 5 | „ |
| Капаньне бульбы | 22 | „ |
| Усяго | 116 | руб. |

| Прыход: | | |
|---|---|---|
| 1000 пуд. бульбы па 30 к. пуд | 300 | руб. |
| Адлічыўшы расходы, | 116 | руб. |
| будзем мець чыстага даходу | 184 | „ |

Адна-ж дзесяціна жыта ў мяне дала такія разьлікі—

| Расход: | | |
|---|---|---|
| Гною 60 ваз. | 30 | руб. |
| Насеньне 10 пуд. | 10 | „ |
| Вываз гною | 10 | „ |
| Пасеў жыта | 10 | „ |
| Жніва | 12 | „ |
| Малацьба | 5 | „ |
| Усяго | 77 | руб. |

| Прыход: | | |
|---|---|---|
| На дзесяціне жыта нажаў 16 коп. | | |
| Намалаціў 60 пуд. | 80 | руб. |
| Саломы пуд. 120 | 20 | „ |
| Усяго | 100 | руб. |

Цяпер з 100 руб. вылічым 77 руб. расходу, то застаецца на чысты даход 23 руб. Чысты-ж даход з дзесяціны бульбе быў 184 р.; значыць, бульба дае даход на 161 руб. большы чым дзесяціна жыта.

Вось чаму кожны гаспадар і павінен, як мага, садзіць больш бульбы. Гэта самы патрэбны продукт у сельскай гаспадарцы. Бульба замяняе гаспадару хлеб, бульбай добра корміць сьвіней, кароў, авец і коняй. Праўда, каровам лепш даваць буракі і іх таксама трэба сеяць усё больш і больш. Коням-жа лепш даваць вараную бульбу. Ад сырой бульбы каня слабіць. Бульбу лепш даваць жывёле разам з рэзкаю, прысыпаючы нямнога мукі*).

**Пётра з Пустога Поля**

*) Рэдакцыя просіць усіх сялян, якія рабілі спробы ў сваіх гаспадарсках з пасевам кармовых буракоў і бручкі ў полі, або карысталіся мінэральнымі ўгнаеньням, сеялі лубін ці сэрадэлю і г. д., перасылаць усе вынікі часопісі „Плуг“ для друкаваньня. Адрас— Менск, Савецкая, 71.

# Чаму я сею лубін.

*(Падлікі селяніна).*

Калі гаспадарка слабая і гною мала, то трэба найбольш сеяць лубіну. Яго лепш сеяць пад жыта на пескавым полі. Пасля лубіну жыта расьце ня горш, чым па гнаі. Але ня кожны гаспадар можа купіць насеньне; вось чаму селяніну трэба сеяць і насенны лубін, хоця на невялічкім кавалку поля. Лубін вырасьце і на самым дрэнным полі. Сеяць яго трэба вельмі рана, як толькі сойдзе сьнег і можна з бараною ўзыйці на поле. Сеяць можна і па асеньнім ворыву без пераворкі вясною.

Пасьля прыборкі лубіну я стараюся яго добра высушыць. Дзеля гэтага снапы стаўлю пад стрэхі, а як падыходзіць зіма і наогул сырая пагода, то снапы пераношу ў будынак. Малачу лубін я вясною, як трэба сеяць, бо зарані абмалочаны лубін псуецца і мала ўсходзіць.

Лубін у мяне дае добры ўраджай. Пасеяўшы пуд, можна сабраць пудоў 30-40.

У мяне у гэтым годзе было пасеена 4 пуды на самым дрэнным полі. Сабраў-жа я 25 коп. 10 коп ужо высушыў добра, а 15 яшчэ сушацца*). Капа лубіну дае пудоў 4. Значыць, усяго магу палучыць да 100 пуд.; гэта прыблізна на суму 50-75 руб. Салома лубіну пойдзе на падсьціл скаціне.

Вельмі пажадана, каб больш сялян сеялі лубін ня толькі, як угнаеньне пад жыта, але й на насеньне. Тады яго больш пойдзе на рынак і таму, хто купляе, цана будзе меншая.

Я сею лубін з 1921 г. Насеньне заўсёды маю сваё. Вельмі цэнны для мяне лубін на трох пескавых бугрох, куды нельга падвезьці гною, бо мяшаюць равы.

**Пётра з Пустога Поля.**

(Байдацкі с/с, Меншчына).

---

# Палепшаная трохпалёўка Сьцяпана Мінакова.

*(Гушчына, Аршанскае акругі, Горацкага раёну).*

Сьцяпан Мінакоў даўно атрымаў хутар з сугліністым полем. Па старому ён завеў трохпалёўку, ад якой і цяпер ня хоча адмовіцца, бо яна значна палепшана. Ад гэтае палепшанае трохпалёўкі ён мае досыць добрую карысьць. З прычыны таго, што так палепшыць трохпалёўку можа ўсялякі селянін, то паглядзім, як вядзе яе Мінакоў.

• Уся зямля Мінакова разьбіта на 3 зьмены.

| | | |
|---|---|---|
| Папар | Азіміна | Ярына |

Каб добра было зразумець увесь парадак яго палепшаньняў і кожнаму селяніну самому з гэтым справіцца, пачнем з папару.

---

*) Артыкул паданы да 10 кастрычніка. Рэд.

Частку папару, напрыклад, з 1918 г. ён пачаў займаць кожны год бульбай. Пасьля гэтага чаргаваньне расьлін пашло гэтакім парадкам.

| | | |
|---|---|---|
| 1918 г. . | Папар | Бульба па гні |
| 1919 г. . | Азіміна | Яравая пшаніца + канюшына |
| 1920 г. . | Ярына | Канюшына |
| 1921 г. . | Бульба па гнаі | Папар, канюшына 2-га году |
| 1922 г. . | Яравая пшаніца + канюшына | Азіміна |
| 1923 г. . | Канюшына | Ярына |

Той-жа малюнак будзе на 2 і 3 зьмене. У папары заўсёды бывае частка бульбы і частка канюшыны 2-га году, якая ці кідаецца пад выпас, ці адзін раз косіцца; частка-ж папару займаецца выкава-аўсянаю мешанінаю, або застаецца зусім чыстым, як гэта будзе патрэбна гаспадару. Поле пасьля азіміны, канюшыны і папару займаецца жытам, а пасьля бульбы—яравой пшаніцай, пад якую падсяваецца канюшына.

У яравым полі бывае канюшына пасьля яравой пшаніцы (у нас 1920 г.), а таксама і іншыя яравыя расьліны, як авёс, лён, выка на зярно.

Гэтак зьмяніўшы трохпалёўку на сугліністым полі, можна з прыбыткам весьці палявую гаспадарку і пры трохпольлі, пакуль ня будзе ўведзен правільны плодазьмен. Трохпалёўка тут палепшана канюшынай, бульбай і выкай, г. зн. тымі расьлінамі, якія павялічваюць карысьць палявой гаспадаркі.

**Т. Плятнэр.**

---

## Чырвоным агрономам.

*(I і II выпуску агрономаў Менскага с.-г. Інстытуту).*

У 1922 годзе ў Менску адчыніўся Беларускі Дзяржаўны Інстытут сельскае і лясное гаспадаркі імя Кастрычнікавае рэволюцыі. Цяпер дзеля ўзмацненьня навуковых сіл і матэр'яльных сродкаў Інстытут зьліўся з Горацкім у с.-г. Акадэмію таго-ж імя. За свой кароткі час Інстытут выпусьціў 53 агрономы і 12 лесаводаў.

Гэтыя маладыя працаўнікі сельскае і лясное гаспадаркі раз'ехаліся па БССР. Летам гэтага году яны зьбіралі матэр'ялы да сваіх першых прац, якія адзначаць іх будучую працу. Частка пашла працаваць па організацыі гаспадарак (колектыўных, саўхозаў і сялянскіх), частка па жывёлагадоўлі, вопытна-дасьледчай справе, коопэрацыі і інш.

Акрыленыя новымі ведамі навукі, азнаёміўшыся са ўсім мясцовым і з‘яўляючыся самі сынамі беларускай вёскі, яны панясуць праменьні сваіх ведаў у нашу, часта яшчэ першабытную вёску. З усіх бакоў будуць штурмаваць чырвоныя агрономы нашу старую вёску і будаваць новую. Крапецеся, браты! Памятайце словы ўсесаюзнага старасты М. І. Калініна: „Агроном павінен заваяваць у вёсцы месца папа і зрабіцца пастаяным яе сябрам у штодзенным і надзвычайным жыцьці“.

Таварышы агрономы! Памятайце, што ні немцы, ні палякі не далі вам гэтай назвы. Дала яе вам беларуская сярмяжная вёска. Вы ёй павінны быць удзячнымі. Цяпер вёска вас чакае!

Пажадаем чырвоным агрономам яшчэ аднаго. Яны павінны дапамагчы нашым культурным і дзяржаўным установам вывучаць усе асаблівасьці нашай вёскі (агранамічнае разьвіцьцё, асаблівасьці быту, мовы, культуры). Памятайце аб асяродку мясцовай культуры—Інбелкульту. Пішэце па краязнаўству.

Працуючы на вёсцы, спаткаеце сялян-культурнікаў. У іх шмат чаму навучыцеся дый самі шмат да чаго дойдзеце. Трэба, каб тое і другое было выкарыстана. Усё гэта павінна быць шырока агалошана. Усё гэта магчыма зрабіць праз часопісь „Плуг“, якая становіцца галоўным сродкам пашырэньня агрономічных ведаў і думак сярод сялянства.

**Сьц. Кот.**

---

# Паштовая скрынка.

ПЫТАНЬНЕ. Я маю некалькі кілёграмаў насеньня палявых яблык і ігруш сёлетняга збору. Прашу параіць, каму-б можна прадаць гэтае насеньне схадней, прычым падкрэсьліваю, што яно адборнае. К. Місюрэвіч.

АДКАЗ. Насеньне палявых яблык і ігруш купляе Белсельтрэст па 8-10 руб. за кілёграм. Ліст Ваш намі перададзены туды. Адрас Белсельтрэсту—Менск, Савецкая, 71.

**В. Глінка.** (Госконзавод Зялень). Вашы артыкулы скарыстаем.

**М. Тарасенку.** Апісаньне Вашай гаспадаркі скарыстаем.

**Аграному Андрусеўскай.** „Чарговыя працы ў садзе ўвосень“, на жаль, для № 10-11 спазьніўся. Скарыстаем.

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Як скарыстаць дрэнныя вучасткі поля.

У старонках, дзе мала лесу, кожны гаспадар цэніць лес і ведае, як здабыць драўніну. Там даўно на лясную гаспадарку зьвяртаюць такую-ж ўвагу, як і на гаспадарку палявую.

Працуючы ў Аршанскай акрузе, мне не адзін раз даводзілася чуць просьбы сялян-хутаран памагчы ім разьвесьці лес (на дрэнных вучастках поля) для патрэбы свае гаспадаркі.

З гэтага відаць, што сяляне ведаюць карысьць вырашчанага лесу.

Спэцыялістым-лесаводам патрэбна дапамагчы селяніну разводзіць лес. Пад лес годна ўсялякая зямля, ня выключаючы балота, прыпадзі, буйныя і сыпучыя пяскі, якімі багата наша Беларусь і якія сустракаюцца ў хутарскіх надзелах нашых сялян.



Усходы сасны. На адным відаць скарлупа ад насеньня.

На такім вучастку селянін будзе мець больш карысьці, калі пасадзіць там лес.

Насеньне д р э ў н ы х парод (сасны, елкі, бярозы і інш) лепш купіць у бліжэйшым лясьніцтве гатовым для пасеву, чым самому зьбіраць яго ў лесе. На 1-2 дзес. насеньня трэба ня вельмі шмат і яно каштуе нядорага. Сялянам цікава больш сасна, елка і бяроза, зачым мы і спынімся на гэтых пародах.

Падрыхтоўка поля пад засеў насеньня паказаных лясных парод амаль аднолькавая.

У сялянскай гаспадарцы пад засеў елкі, сасны і бярозы лепш вырабляць поле палосамі; у гэтым выпадку трэба менш працы і насеньня.

Сасна, якая добра расьце на пяскох, патрабуе, каб у восень поле было ўзорана і паскароджана. Вясной, як толькі крыху падсохне, зямлю аруць палосамі шырынёю 35—70 см. ($^1/_2$-1 арш.) і на адлегласьці 17—70 см. ($^1/_4$-1 арш.) паласа ад паласы*). На скацістым полі

---

*) Шырыня палос і адлегласьць паміж імі залежыць ад глебы і дзікай травы. Калі травы шмат, то адлегласьць бяруць найбольшую.

трэба праводзіць палосы ўпоперак, каб глеба не размывалася дажджамі і вясеньнімі сьнегавымі водамі. Пры вырабу поля палосамі будзе шмат лягчэй і зручней даглядаць усходы. Пасьля воркі поля, робяць барозны глыбінёй 4 см. (1 вярш.) дошкаю ці калком.

У гэтыя барозны густа сеюць насеньне сасны, якога пойдзе пры такім пасеве ад 15 да 20 фун. на дзес. Потым граблямі закрываюць насеньне нятоўстым слоем зямлі і, каб поле менш высыхала, прыкрываюць яго апілкамі ці саломенай сечкаю.

Праз 1-3 тыдні пачнуць зьяўляцца ўсходы, нібы маленькая траўка з 5-7 іголачкамі (гл. мал. ). У гэты час зьявіўшуюся траву трэба асьцярожна выпалаць, стараючыся не чапаць адначасна ўсходаў сасны. У працягу лета траву трэба прапалоць разы два-тры і разы два матыкаю ўспульхніць зямлю паміж усходамі.

Калі сасна ўзышла густа, а на іншых вучастках усходаў зусім няма, тады густыя ўсходы сасны прарываюць і засаджваюць імі пустыя вучасткі.

У далейшым густыя пасевы таксама прарываюць і глядзяць, каб іх не пашкодзіла скаціна, дзеля чаго вучасткі з пасевамі лепш абгарадзіць жэрдкамі.



Усходы елкі.

Пад елку лепш выбіраць прыпадзі, бо гэта бывае большаю часткай сырая (суглiністая і гліністая) зямля, на якой елка расьце добра; але трэба памятаць, што застайваньне вады шкодзіць елцы. Лішкі вады спускаюць, капаючы 1-2 канавы і калі зямля стане прыгоднай для вырабу—праводзяць палосы шырынёю 35—53 см. (1/2-3/4 арш.) і на адлегласьці 53-70 см. (3/4-1 арш.) адна ад другой.

Пасьля ўзоркі і ўспульхненьня поля, на ім мецяць дошкай барозны. У гэтыя барозны высяваюць насеньне, таксама як і насеньне сасны. Пры такім пасеве трэба ад 20 да 30 фунт. насеньня на дзес.

Зьяўляюцца ўсходы елкі праз 2-4 тыдні такой самай траўкай, як і ў сасны, маючы ад 7 да 9 іголачак (гл. мал.).

Елка ня любіць вялікага сьвету вось чаму, як толькі зьявяцца ўсходы, іх трэба прыцяніць яловымі лапкамі, якія ўтыкаюцца з сонечнага боку. Калі-ж яловых лапак няма, то ўбіваюць калы перад паласой (таксама з сонечнага боку) і на іх кладуць жэрдкі, да якіх прывязваюцца снапы саломы. Далейшы догляд за ўсходамі елкі той самы, што і за сасною.

Пад засеў бярозы поле выпрабляецца палосомі. Садзіць яе можна на прыпадзях і на пясках. Лепш бярозу разводзіць мяшаючы з сасною ці елкаю, г. зн. перш засяваць паласу сасною ці елкаю, затым наступную паласу—бярозаю. Такі спосаб лепшы, і ў далейшым лесу будуць менш шкодзіць кузуркі і пагражаць пажары; акрамя таго, сасна ці елка ў перамешцы з бярозаю будзе расьці роўнымі дрэўцамі.

Поле пад засеў бярозы трэба добра ўспульхніць і высяваць насеньне гусьцей, бо насеньне бярозы мае малую ўсходжасьць (15-25%). На дзесяціну насеньня бярозы трэба $1^{1}/_{2}$—2 пуды. Сееца бяроза вясной у вільготную глебу і ў ціхую пагоду.




Усходы бярозы. На другім (b) відаць першы лісток.

Высеенае насеньне зямлёй не закрываецца, а толькі прысьцілаецца сухім лісьцем і зьверху пасыпаецца апілкамі ці рэзкай з саломы.

Усходы бярозы зьяўляюцца праз 2-4 тыдні таксама маленькай траўкай цёмна-зялёнага колеру, якая мае 2 круглых лісткі (гл. мал.)

Як толькі пачнуць зьяўляцца ўсходы бярозы, сухое лісьцё зараз-жа трэба сабраць, бо іначай усходы загінуць. Поліва дзікай травы і пульхненьне глебы паміж усходамі бярозы амаль немагчыма, бо разам з травой можна вырваць маладыя ўсходы, ці папсаваць карэньчыкі пры пульхненьні.

Але пры густаце ўсходаў маладыя расьлінкі ў канцы лета праражваюць, каб яны не заглушаліся. Для гэтага плошчу з усходамі дзеляць на папярочныя палоскі шырынёю 8-13 см. (2-3 вярш.). Далей праз адну палоску выкапваюць усе расьлінкі і, не страсаючы зямлі, садзяць іх на другім месцы ў канаўкі на 8-13 см. радок ад радка.

Праз некалькі год, калі будзе відаць, што бярозкі надта густа растуць, іх можна прарадзіць, і выкапаныя пасадзіць у другім месцы.

Калі-ж маладаы лясок (сасны, елкі, бярозы) дасягне ўзросту жэрдняку, гаспадар можа ўжо карыстацца ім для патрэб свае гаспадаркі, высякаючы патрэбны матэр'ял у гусьцейшым месцы.

Карыстаньне драўнінай ў гэтым узросьце ўжо аплачвае працу па гадаваньні лесу.

В. Пашын.

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

---

# Аб скарыстаньні пнёў на апал.

У Беларусі лес расьце нероўнамерна. Ёсьць акругі і раёны, дзе лесу хапае ўсім: лесазагатоўчым організацыям, насельніцтву і яшчэ шмат застаецца. А ёсьць і такія, дзе няма яго ня толькі на будоўлю, але нават і на апал. Да гэтакіх бедных лесам акруг належаць Менская, Слуцкая, Магілеўская, Аршанская, Калінінская і Віцебская.

У большай частцы лясных дач гэтых акруг няма ўжо ні сухастою, ні ветравалу, усё што можна павыбрана. Дзялянак, у якіх расьце лес на дровы, таксама мала і іх на апал не хапае.

У малалесных акругах застаецца яшчэ скарыстаць пні хваёвых дрэў. Такіх пнёў на аднэй дзесяціне можа быць ад 2 да 5 куб. сажн. Частка сасновых пнёў ідзе на смалакурэньне, а рэшта і ўсе яловыя пні можна скарыстаць на апал.

Калі сасновыя пні ня трацяць свае каштоўнасьці для смалакура, нават паляжаўшы ў зямлі, то яловыя пні не даюць лясной гаспадарцы нічога апрача шкоды, бо яны дапамагаюць пашырэньню розных лясных шкоднікаў.

Калі насельніцтва возьмецца за карчаваньне яловых пнёў, то гэтым яно дапаможа сабе і лясной гаспадарцы. Карэньні яловых пнёў ляжаць блізка ад паверхні зямлі, дзякуючы чаму карчаваць іх ня цяжка.

Пні прадаюць лясьнічыя ад 1 руб. да 2 р. 50 кап. за куб. саж. Такая расцэнка залежыць ад таго, як багата мясцовасьць лесам. Дзе лесу мала, там плацяць за пні даражэй, дзе лесу шмат—там таней.

Незаможнаму насельніцтву, інвалідам вайны і працы і, наогул, усім тым, каму дапамагае Сабес і Комітэты сялянскай узаемадапамогі, тым сялянам, якіх зволынілі ад с.-г. падатку, у якіх няма коняй, усім беспрацоўным рабочым і служачым, якім дапамагае Наркампрацы, пні даюць бяз кошту.

Для карчаваньня пнёў лясьнічыя вызначаюць асобныя дні (каля 8 дзён у мес.) і вучасткі лесу, на якіх можна карчаваць пні бяз усякай шкоды для лясной гаспадаркі. У гэтыя дні ўсе незаможныя сяляне, якім патрэбны дровы, могуць карчаваць пні бяз кошту, а таксама і зьбіраць прыгодны на дровы павал.

Можа ня ўсе ляснічыя праводзяць гэта карыснае, мерапрыемства, як для лясной гаспадаркі, так і для насельніцтва зьмясьціць пытаньне аб насеньні мерапрыемства. Тады сялянам трэба самім напомніць аб гэтым лясьнічым і атрымаць у іх білеты на карчаваньне пнёў і збор павалу на дровы.

**Я. Седашоў.**



# КООПЭРАЦЫЯ

## Дзейнасьць Цэнтральнага Дзяржаўнага с.-г. складу за 1924-25 г. і плян працы на 1925-26 г.

Цэнтраземскладу сваёй працы мае на мэце:

1) здаволіць па магчымасьці сялянства самым неабходным сельска-гаспадарчым насеньнем, штучным угнаеньнем, машынамі і прыладамі;

2) даць сялянству якраз тыя прылады, якія яму патрэбны;

3) даць тыя сарты насеньня, якія сялянства лічыць найбольш выгадным сеяць.

Найлепшым падыходам для правядзеньня ўсяго гэтага ў жыцьцё было складаньне пэўнага пераліку тавараў, што і зрабіў Цэнтраземсклад, каб далей па гэтаму пераліку месцы выказалі свае патрэбы на тыя ці іншыя тавары. Калі была-б патрэба яшчэ і ў другіх таварах, то іх прышлося-б дадаць.

Такім чынам, з пэўных мясцовых патрэб сельскай гаспадаркі склаўся торговы плян Цэнтраземскладу.

Выпаўняць-жа гэты плян Цэнтраземскладу было вельмі цяжка. Перашкаджалі:

1) недахоп уласных зваротных капіталаў;

2) неабходнасьць плаціць за патрэбныя машыны ўсе 100 проц. яшчэ да сэзону распрадажы іх;

3) недахват крэдытаў дзеля куплі сельска-гаспадарчых машын і

4) павялічэньне попыту сялян на машыны і другія тавары.

Аднак, ня гледзячы на гэта, Цэнтраземскладам у мінулым 1924-25 г. была зроблена вялікая праца. Перш-на-перш сялянству была дана магчымасьць атрымаць тыя прылады, да якіх яно прызвычаілася і якія адпавядаюць мясцовым глебавым умовам. Дзеля гэтага Цэнтраземсклад свае с.-г. майстэрні прыстасаваў да вырабу новых с.-г. машын і прылад; а ў наступным годзе гэтыя майстэрні наважана зрабіць ужо сапраўдным машына—будаўнічым заводам. Вытворчасьць гэтых с.-г. майстэрняў у 1924-25 г. была такой:

| | |
|---|---|
| плугоў Сухені № 0 . . . . | 6.332 шт. |
| „ „ № 1 . . . . | 1.060 „ |
| асыпнікаў Вжэсінскага . . . | 897 „ |
| арф . . . . . . . . | 327 „ |

Для прыбліжэньня тавараў да вёскі Цэнтраземсклад у працягу мінулага году асаблівую ўвагу зварачаў на гандлёвую сувязь з нізавой коопэрацыяй. Ад гэтага лік машынных коопэрацыйных організацый пашыраўся і за год дасягнуў да 300.

Павялічэньне патрэб з боку сялянства на тавары прымусіла Цэнтраземсклад значна павялічыць куплю амаль што ўсіх тавараў. Гэта відаць з табліцы:

| Што набыта. | Патрэбная колькасьць па пляну | Набыта складам. | % ад лічбаў пляну 1924/25 г. |
|---|---|---|---|
| Плугоў . . . . . . . . | 17.885 шт. | 36.505 шт. | 205 |
| Барон. . . . . . . . . | 4.305 „ | 4.605 „ | 106 |
| Жняярак і касілак . . . | 220 „ | 294 „ | 134 |
| Малатарань . . . . . | 1.150 „ | 2.015 „ | 175 |
| Манежаў . . . . . . | 800 „ | 932 „ | 110,6 |
| Арфаў-сартовак . . . . | 925 „ | 1.446 „ | 156 |
| Кос . . . . . . . . . | 90.000 „ | 220.244 „ | 244 |
| Сярпоў . . . . . . . . | 65.000 „ | 111.546 „ | 138 |
| Віл . , . . . . . . . | 40.000 „ | 86.258 „ | 215 |
| Дробных прылад на . . | 216.997 р. | 465.007 р. | 214 |
| Супэрфосфату . . . . | 45.000 п. | 68.269 п. | 151,6 |
| Фосфарытнае мукі . . . | 12.000 „ | 44.316 „ | 352 |
| Жалеза markнага . . . . | 22.000 „ | 72.384 „ | 329 |

Насеньня кармовых траў у мінулым годзе разышлося значна менш, чым яго меркавалася па пляну. Гэта тлумачыцца з аднаго боку высокімі ўраджаямі на яго, а з другога—абрэзкай зямлі.

Продаж-жа ўсіх тавараў за 1924-25 г. складае даволі значную суму, ў два з паловай міліёны руб. (2.522.066 руб. 9 кап.); гэта значыць 262 проц. ад продажу 1923-24 г. Некаторыя тавары павялічылі гэты проц. нават да 706 (у сем раз больш, чым у 1923-24 г.).

| Назва тавараў. | Прадана ў 1923/24 г. | Прадана ў 1924/25 г. | % ад лічбаў 1923/24 г. |
|---|---|---|---|
| Плугі . . . . . . . . . | 4.662 шт. | 3 .880 шт. | 705 |
| Барон , . . . . . . . | 816 „ | 4.418 „ | 541 |
| Малатарні . . . . . . | 608 „ | 1.621 „ | 266,6 |
| Арфы-сартоўкі . . . . | 208 „ | 1.250 „ | 600,9 |
| Сячкарні . . . . . . . | 457 „ | 887 „ | 194 |
| Касілкі . . . . . . . | 22 „ | 73 „ | 331,8 |
| Жняяркі. . . . . . . . | 46 „ | 69 „ | 146,8 |
| Іншыя маш. і часьці на . | 87.946 р. | 258.444 р. | 293,8 |
| Косы . . . . . . . . . | 64.457 шт. | 197.338 шт. | 306 |
| Сярпы . . . . . . . . | 42.540 „ | 78.556 „ | 184,6 |
| Жалеза球 living рознае . . . . | 249.786 кгр. | 951.249 кгр. | 380 |
| Канюшына . . . . . . | 141.217 „ | 169.421 „ | 119,9 |
| Цімафейка . . . . . . | 20.412 „ | 19.402 „ | 95 |
| Сэрадэля . . . . . . | 73.734 „ | 55.957 „ | 75,8 |
| Выка . . . . . . . . . | 451.884 „ | 307.841 „ | 68 |
| Лубін . . . . . . . . . | 137.172 „ | 338.085 „ | 246 |
| Супэрфосфат . . . . . | 490.325 „ | 944.506 „ | 192,6 |
| Фосфарытная мука . . . | 335.921 „ | 573.365 „ | 152,5 |
| Касьцяная мука . . . . | 70.948 „ | 56.541 „ | 80 |
| Калійная соль . . . . | 22.683 „ | 31.596 „ | 43 |
| Салетра . . . . . . . | 1.640 „ | 15.870 „ | 967,7 |

З гэтага відаць, што штучных угнаеньняў, як супэрфосфат, фосфарытная і касьцяная мука, можна было-б яшчэ шмат прадаць, але, нажаль, іх не хапіла на Складзе (расійскія заводы не маглі складу прадаць, а з-за граніцы прывозу ня было).

Павялічэньне-ж звароту Цэнтраземскладу па гадам бачым з табліцы

| Што прадана. | 1922 г. штук. | 1922/23 г. штук. | 1923/24 г. штук. | 1924/25 г. штук. |
|---|---|---|---|---|
| Плугі . . . . | 1.116 | 1.658 | 4.662 | 32.880 |
| Бароны . . . | 72 | 170 | 816 | 4.418 |
| Малатарні . . | 11 | 83 | 608 | 1.621 |
| Арфы-сартоўкі. | 117 | 190 | 208 | 1.250 |
| Сячкарні . . . | 54 | 226 | 457 | 887 |

Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што наша сельская гаспадарка шпаркім крокам ідзе да аднаўленьня і ўзмацненьня.

Плян-жа працы Цэнтраземскладу на 1925-26 г. складзены на падставе таксама мясцовых патрэб і мае такія меркаваньні:

| | | |
|---|---|---|
| Плугоў | 34.635 | шт. |
| Барон. | 5.898 | „ |
| Асыпнікаў | 2.850 | „ |
| Палольнікаў | 185 | „ |
| Сяўнікоў | 110 | „ |
| Жняярак | 80 | „ |
| Касілак | 30 | „ |
| Кос | 217.900 | „ |
| Сярпоў | 95.200 | „ |
| Брускоў | 300.000 | „ |
| Малатарань | 1.610 | „ |
| Манежаў | 1.070 | „ |
| Льнамялак | 230 | „ |
| Арфаў | 1.320 | „ |
| Льначыстак | 100 | „ |
| Трыераў | 68 | „ |
| Сартовак | 273 | „ |
| Сячкарань | 1.825 | „ |
| Цэнтрафуг | 426 | „ |
| Малочнае пасуды | 3.910 | „ |

| | | |
|---|---|---|
| Маслабоек | 167 | шт. |
| Воўначосак | 40 | „ |
| Дробн. інвэнтару на | 439.990 | р. |
| Жалеза рознага на | 171.700 | п. |
| Штучнага ўгнаеньня | 254.900 | „ |
| Насен. карм. траў | 14.400 | „ |
| Лубіну | 16.000 | „ |
| Сарт. насен. (збожжа) на | 10.000 | р. |
| Насеньня кармовых буракоў, морквы, бручкі на | 10.000 | „ |
| Насеньня гародных расьлін на | 20.000 | „ |
| Сродкаў барацьбы са шкоднікамі на | 30.000 | „ |
| Усяго на | 3.208.293 | р. 16 к. |

**Бахір.**

## Пытаньні і адказы.

**Селяніну Міхасю Савельеву.**

ПЫТАНЬНЕ. Я хачу купіць жняярку, але ня ведаю дзе і як. Ці ёсьць у нас заводы, якія выробляюць жняяркі, і якія замежныя жняяркі лічацца лепшымі.

АДКАЗ. Лепшымі жняяркамі лічацца машыны заводаў Мак-Корміка і Дзерынга (Амэрыка). Па тыпу Мак-Корміка выробляюцца жняяркі ў Чэхаславаччыне, Нямеччыне (завод Круппа) і ў СССР (Украіна, Ліберэцкі завод). Центрвземсклад БССР набываў машыны з Ліберэцкага заводу.

У гэтым годзе для спробы выпісана адна жняярка з Нямеччыны.

Сялянам лепш купляць жняяркі праз акруговыя аддзяленьні Цэнтраземскладу БССР. На жняяркі даецца крэдыт на 9 мес.; плата адразу 25 проц.

На машыны, па цане менш 50 руб., кредыт даецца на 6 м-цаў.

На нашых беларускіх заводах выробляюцца іншыя с.-г. машыны.

Віцебскі завод выробляе: плугі Сухені № 0, № 1, № 2*), малатарні, арфы.

Аршанскі завод выробляе: Сячкарні і малатарні.

Майстэрні імя Бурбіса (Менск): плугі, сячкарні, асыпнікі, манежы.

Завод „Энэргія“ (Менск): Малатарні маняжы, сячкарні.

*) № 0—лёгкі плуг.
№ 1—большы, аднаконны плуг.
№ 2—яшчэ большы, параконны.

# Арэнда зямлі.

*(Земляупарадкованьне).*

Да гэтага часу селянін у выпадку няшчасьця ў гаспадарцы (пажару, граду, неўраджаю, навадненьня і інш.), а таксама недастачы ў ім рабочай сілы ці прылад, мог здаваць сваю зямлю ў арэнду на тэрмін да 3-х год пры адсутнасьці ў гаспадарцы правільнага севавароту з тым, што пасьля гэтага тэрміну далейшае арандаваньне магчыма было толькі з дазволу зямельных органаў.

Пры такім невялікім тэрміну арэнды, здатчык ня можа атрымаць за зямлю высокую арэндную плату, а ў арандатара ня будзе ахвоты клапаціцца аб грунтоўных палепшаньнях зямлі, якія за гэты тэрмін ён ня мог-бы скарыстаць.

На гэта зьвярнулі увагу VII Ўсебеларускі і III Ўсесаюзны Зьезд Саветаў.

Азначаныя Зьезды ў мэтах укладваньня сабраных сялянамі сродкаў у апрацоўку і ўгнаеньне зямлі для падняцьця яе продукцыйнасьці і даходнасьці, прызналі неабходным зьністожыць перашкоды к больш шырокаму скарыстаньню права сялян здаваць і браць зямлю ў арэнду, а таксама здаваць у арэнду не скарыстоўваемыя землі, якія знаходзяцца пад загадам зямельных органаў і зямельных аб'яднаньняў.

У выкананьне гэтых пастаноў З'ездаў, Народным Камісарыятам Земляробства 21 жніўня за № 29 выданы абежнік, які пашырае тлумачэньне артыкулаў Зямельнага Кодэксу аб парадку здачы зямлі ў арэнду паасобнымі працоўнымі гаспадаркамі, зямельнымі аб'яднаньнямі і зямельнымі ўстановамі.

З выданьнем гэтага абежніка сялянскі двор у выпадку недастачы работнікаў, прылад ці сродкаў, можа здаваць ў арэнду зямлю, якою ён карыстаецца на тэрмін да 12 год, калі ў гаспадарцы вядзецца ня больш шасьціпольнага севавароту, а ў іншых выпадках на тэрмін двох севаваротаў. Знача, калі ў гаспадарцы прыняты васьміпольны севазварот, зямля можа быць здана ў арэнду для вядзеньня на ёй сельскай гаспадаркі на тэрмін да 16 год.

Але права гэта не пашыраецца на перасяленцаў, якія могуць здаваць у арэнду пакідаемую імі зямлю на тэрмін ня больш 3 год. Пасьля тэрміну зямля перасяленца пераходзіць у запасны фонд, калі ён ня вернецца.

Таксама раёная зямельная комісія па іску зямельнага аб'яднаньня, сельсавету ці выканкому павінна залічыць у запасны фонд зямлю, зданую ў арэнду дваром, поўнасьцю спыніўшым вядзеньне сельскай гаспадаркі; напрыклад, у выпадку распачацьця яго сябрамі новага ладу жыцьця ці ад'езду ўсяго двара ў горад. Калі-ж пойдуць на заработкі ці службу толькі некаторыя з сяброў двара, а іншыя застануцца на гаспадарцы, то адпаведная частка зямлі можа быць здана ў арэнду.

Арэнда зямлі дапушчаецца толькі працоўная, гэта значыць, што сям'я павінна працаваць на заарандаванай зямлі нароўне з нанятымі рабочымі, калі такія ёсьць.

Перадаваць другім асобам ўзятую ў арэнду зямлю арандатар ня мае права. Асобы, прымаючыя ў ёй удзел, караюцца; апрача таго, умовы такай падвойнай арэнды (суб'арэнды) па іску зямельных ўстаноў павінны быць агалошаны ўтраціўшымі сілу.

Арэндная ўмова на зямлю законна толькі ў тым выпадку, калі яна зарэгістравана ў раённым выканаўчым комітэце. Выкананьне ўмовы без рэгістрацыі яе, а тым больш, калі такой ўмове ў рэгістрацыі Райвыканкомам адмоўлена, даводзіць да таго, што зямля адбіраецца па рашэньню зямельнай комісіі.

Рэгістрацыя арэндных дагавораў уведзена дзеля таго, каб пад выглядам арэнды не рабіліся забароненыя зямельныя ўмовы, каб ўсе варункі арэнднага дагавору адказвалі вымаганьням закону і каб папярэдзіць кабальныя ўмовы, на якія можа пайсьці здатчык пры страшэннай бядоце.

Арандатар цяпер бывае экономічна больш моцным гаспадаром, чым здатчык.

Ня толькі асобныя сялянскія двары, але й зямельныя аб'яднаньні могуць здаваць знаходзячуюся пад іх загадам зямлю ў арэнду:

1) для вядзеньня на ёй сельскай гаспадаркі;

2) для нясельска-гаспадарчых промыслаў і вытворчасьці і

3) для забудовы.

Якую зямлю для вядзеньня на ёй сельскай гаспаркі можа здаць у арэнду зямельнае аб'яднаньне? Відаць толькі тую, якою яно можа распараджацца.

Зямельнае аб'яднаньне ў нас у БССР распараджаецца перш ўсяго угодзьдзямі агульнага карыстаньня, г. зн. плошчамі, выганамі, выпасамі, прагонамі, няўдобіцамі і інш. Акрамя таго, і сельска-гаспадарчыя ўгодзьдзі, якія знаходзяцца ў карыстаньні паасобных двароў, могуць перайці на час у распараджэньне зямельнага аб'яднаньня, калі зямельная комісія бярэ на пэўны тэрмін зямлю ад працоўнага зямлякарыстацеля на падставе арт. 58 Зям. Код, па іску зямельнага аб'яднаньня.

Зямельнае аб'яднаньне можа само карыстацца зямлёю, ужываючы колектыўную працу ці здаць яе ў арэнду на вызначаны зямельнай комісіяй вядомы тэрмін, але ня больш, як на 12 год і з тым, каб па сходу гэтага тэрміну зямля была перададзена першаму яе карыстацелю.

Для нясельска-гаспадарчых промыслаў, напр., для наладжваньня складу лясных матэр'ялаў, для капаньня пяску, гліны, торфу, зямельнае аб'яднаньне можа здаваць у арэнду знаходзячуюся пад яго загадам зямлю толькі з дазволу раённага выканаўчага Комітэту, які павінен высьніць, наколькі зьяўляецца мэтазгодным скарыстаньне сельскагаспадарчых плошчаў у іншым напрамку.

У гэтым выпадку зямля можа быць здана ў арэнду зямельным аб'яднаньнем на тэрмін ня больш 12 год.

Урэшце зямельнае аб'яднаньне па пастанове сходу можа здаваць вучасткі зямлі агульнага карыстаньня пад забудову ня толькі дамоў, але і іншых строяк, напр. заводаў, млыноў, крам і інш., пры чым дагаворы забудовы робяцца па правілам, вызначаным арт. 71-80 Грам. Код., а тэрмін гэтых дагавораў вызначаецца ня больш 60 год для камяніц і ня больш 40 год для ўсіх іншых.

Арэндная плата пры здачы зямлі ў арэнду зямельнымі аб'яднаньнямі ідзе на гаспадарчыя й культурныя іх патрэбы, а ў аб'яднаньнях, якія на плошчы зьліваюцца з сельсаветам, арэндная плата ідзе у бюджэт сельсавету.

Усе азначаныя мерапрыемствы будуць дапамагаць палепшаньню сельскай гаспадаркі і павялічэньню даходнасьці зямлі.

**Я. Вішнеўскі.**

---

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Культурная гаспадарка Віктара Каток.

*(Хут. Бабка Пухавіцкага раёну, Меншчына).*

Пры разьмеркаваньні быўшага маёнтку „Сіротка“ ў 1921 г., Віктар Каток атрымаў вучастак зямлі ў 9,28 дзес., з якой было прыгоднай

| | | |
|---|---|---|
| пад пахаць | 5,96 | дзес. |
| „ сенажаць | 2,80 | „ |
| няўдобіцы | 0,52 | „ |

Гэта зямля зьяўлялася выразным падзолам і маёнткам была кінута ў пусташ, як бяздаходная. Усе маламоцныя сяляне баяліся брацца за гэту зямлю, кажучы: „Усе роўна прападзеш на тэй зямлі, там і памешчык нічога ня мог зрабіць і кінуў яе“. Але Віктар Каток не пабаяўся гэтага, узяў там хутар і пачаў вырабляць закінуты дзярван. Не шкадуючы працы палепшваў ён зямлю і наладжаваў на ёй гаспадарку. І што-ж мы бачым тут праз тры гады?

Ужо збудавана добрая хата на дзьве палавіны, збудованы хлеў для скаціны, гумно, пограб. Увесь будынак чысты, прасторны, выгодны; пастаўлены ён на месцы.

Ранейшы дзярван мае цяпер іншы выгляд. Усёй 35,96 дзес. прыгоднай пад пахаць зямлі ўжо выраблена 4,68 дзес. Тут-жа заведзены і пяціпалёвы пладазьмен (севазварот). Чаргаваньне расьлін такое:

1. жыта азімае з палавінным гнаёвым угнаеньнем,
2. бульба, „ „ „
3. ярына з падсевам канюшыны,
4. канюшына І-га году,
5. канюшына ІІ-га году (частка на скос, частка пад выпас).

Нізкія месцы поля асушаны канавамі. Усяго пракопана канавы на 145 саж. На аднэй частцы поля пабудованы дрэнаж (асушка мокрага поля закрытымі канавамі).

На полі Каток сее такія расьліны: жыта шацкае, авёс шацілаўскі, канюшыну чырвоную, бульбу Вольтман і Сілезію, кармовыя буракі і турнэпс.

Сярэдні ураджай з дзес. у 1925 г. быў—

| | | |
|---|---|---|
| жыта зімовае | 90 | пуд. |
| авёс | 70 | „ |
| бульба | 800 | „ |
| канюшына (яшчэ не зьбіралася) | | |
| кармовыя буракі | 900 | пуд. |
| турнэпс | 900 | „ |

У гаспадарцы маюцца такія машыны і прылады:

| | | |
|---|---|---|
| | параконная барана зіг-заг . . . . . | 1 |
| | плуг „Сухені“ . . . . . . . . . . . | 1 |
| | пружыноўка . . . . . . . . . . . . | 1 |
| | сартоўка-млынок . . . . . . . . . | 1 |
| Скаціна: | | |
| | кабыла 3-х год (палепшана рысаком) | 1 |
| | жарабок 5 мес. (з крывёю ардэна) . | 1 |
| | каровы . . . . . . . . . . . . . | 2 |
| | цялушкі . . . . . . . . . . . . . | 2 |
| | сьвіньні (з крывёю ангельскіх) . . . | 2 |
| | авечкі . . . . . . . . . . . . . . | 11 |
| | гусі . . . . . . . . . . . . . . . | 16 |
| | куры . . . . . . . . . . . . . . . | 30 |

Корму ў гаспадарцы зьбіраецца даволі шмат і скаціна корміцца добра. Каровам апрача сена, саломы, мякіны і рэзкі з мукою, даюцца корняплоды. Гадавы ўдой малака каля 200 вёд. Малако пераганяецца на сэпаратары.

У гаспадарцы маецца 8 вульлёў пчол. Чатыры сям‘і пчол знаходзяцца ў рамовых вульлях Дадан-Блата і Рута. З наступнага году гаспадар мяркуе ўсе сем‘і перагнаць у рамовыя вульлі.

„Няма ніякага сэнсу вадзіць пчол у калодах“, кажа Каток: „Сям‘я пчол у калодзе дае 10 фун. мёду, а у рамовым вульлі 1 пуд.“

Для пчалярства гаспадар мае амаль усе патрэбныя прылады (мёдагонку, дымар, нож для вырэзваньня мёду, сетку, раёўню). У 1924 г. на раённай с.-г. выстаўцы ў Падблоні (Пухавіцкі раён) Віктар Каток атрымаў прэмію за культурнае пчалярства.

Пад садам і гародам у сел. Каток знаходзіцца 1/3 дзес. У садзе маецца 34 шт. пладовых дрэў. Сярод яблынь пераважна антонаўка, а сярод ігруш—Слуцкая бэра і бяззернятка. Тут-жа пры садзе знаходзіцца і пладовая школка (120 кв. саж.), дзе знаходзіцца да 2000 прышчэп і завачкованых дзічак (500 шт, завачкована да 1925 г., а рэшта у мінулым леце г. г.).

Гарод у Віктара Каток таксама мае культурны выгляд. У гэтым годзе ўрадзілася добра браўншвэйская капуста, эгіпэцкія буракі, морква і гуркі.

Усе працы ў гаспадарцы праводзяцца гаспадаром і яго сям‘ёй (жонка, маці. два сыны 15 і 17 год, дачка 13 год).

Гаспадар любіць чытаць газэты і с.-г. кнігі. Мае невялічкую бібліотэку.

Можна спадзявацца, што і далей гаспадарка Віктара Каток будзе палепшацца і цікавіць другіх сялян сваімі культурнымі вынікамі.

**Райагроном Х. Холад.**

# Аб разьвітку сельскай гаспадаркі ў Беларусі.

Калі мы перакінемся думкаю на некалькі год назад і паглядзім на нашу сельскую гаспадарку таго часу, то пабачым, што ў той час яна мела зусім іншы выгляд. Іначай вялася праца і іншае было гаспадараваньне; нават сам селянін меў іншыя погляды. Адгэтуль зразумела, што сельская гаспадарка палепшвалася крок за крокам. Для нас цікава, каб зямляробства разьвівалася, як найхутчэй. Вядома, што высокі разьвітак яго дасьць экономічную моц краю і паможа збудаваць розныя галіны другіх прамысловасьцяй. Паглядзім, што раней мела ўплыў на наша зямляробства.

Значны ўплыў на сялянскую гаспадарку рабілі гаспадаркі буйных зямляўласьнікаў, у якіх на Беларусі недахвату ня было. Буйныя гаспадаркі вяліся шмат лепш, чым у сялян. Шмат хто з паноў меў па некалькі маёнткаў і ў некаторых з іх вёў гаспадарку культурна, хаця ўсе іншыя маёнткі нішчыліся і прадаваліся.

Добрыя спосабы вырабу поля, лепшыя сарты насеньня селянін прымячаў і ўрэшце што-небудзь і пераймаў. Здаралася, што ён купляў у пана добрае насеньне і сеяў яго. Праўда, гэта лепшае насеньне часта на другі ці трэці год гінула, бо за ім быў горшы догляд. Здаралася, што сорт у селяніна рос і добра.

Прыклад палепшаньня скаціны мы бачым у сялян вёсак Чурылавічы і Кацягі, што блізка каля маёнтку імя Калініна (быўш. Ігнатычы) Менскай акругі, дзе землялаўсьнікам Ельскім была выведзена *чырвоная беларуска-літоўская карова.* Сяляне гэтых вёсак скарысталі суседзтва і цяпер яшчэ маюць лепшую скаціну.

Уплыў агрономічнай думкі на сельскую гаспадарку быў надта слабы. Ён прыметны толькі з 1912 году, калі на Беларусі заснаваліся земствы. Але недахват агрономаў і зоркае вока царскіх ураднікаў рабілі тое, што селянін працаваў адзін і палепшваў сваю гаспадарку сам; часта траціласяа шмат сілы й часу на розныя спробы, незразумелыя крокі ўбок і нават назад, каб зрабіць хоць адзін добры крок наперад.

Як прыклад сялянскай творчасьці, пакажам на іх працу з папарам. Год 15—20 таму назад можна было бачыць у сялян Меншчыны такое трохпольле:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I | Папар позны сялянскі. / Гарох | Жыта | Ярына. |

1—*папар* з малою плошчай падсеву гароху, 2—*жыта*, 3—*ярына* (1) Прашло некалькі часу і селяніна гэта ўжо не здавальняла; трэба было паменшыць кавалак папару, і мы знаходзім такі выгляд трохпольля:

| | | | |
|---|---|---|---|
| II | Позны сялянскі папар. / Канюшына. / Гарох. | Жыта | Ярына. |

1—*папар*, тут-жа гарох і канюшына, 2—*жыта*, 3 *ярына.* (II)

Прашло некалкі часу і мы бачым новы малюнак: у папары замест канюшыны пачалі сеяць выку. Пад сялянскім папарам застаецца

самая маленькая частка зьмены. У гэты-ж час сеялі ў папары і лубін, як зялёнае ўгнаеньне (патрэба яго была ўжо вядома). Але гэта было ня доўга. Практычнае вока селяніна адразу бачыла, што ў год пасеву лубіну з поля карысьці няма, і лубін пачалі сеяць менш у папары. Далей сустракаецца засеў лубіну ня толькі, як угнаеньне пад жыта, але пасьля жніва жыта, як угнаеньне пад ярыну. Заворваецца пажніўны лубін ўвосень ці вясною.

| | | | |
|---|---|---|---|
| III | Папар поз. сялянскі<br>Выка з аўсом<br>Гарох | Жыта | Ярына. |

У сучасны момант апошні прыклад севазвароту яшчэ больш зьмяніўся. У яравой зьмене сталі больш сеяць бульбы, лічачы, што яна добрая дапамога корму.

Чым-жа можна тлумачыць гэтую творчасьць селяніна? Што прымушала яго шукаць лепшых і новых форм гаспадараваньня. Перщае, гэта павялічэньне свае сям'і і рост яе запатрабаваньняў. Трэба было павялічыць засеў збожжа. Вось ён і ўзяўся за папар. Сеючы ў папары гарох, селянін ведаў, што пасьля гароху жыта расьце добрым. Але трэба было прыбавіць і корму. Селянін стаў падсяваць у ярыну канюшыну. Такім чынам, у папары зьявіліся гарох і канюшына, пасьля якіх і жыта расло добра.

З засевам папарнай зьмены патрэбна было й больш гною. І мы бачым, як селянін цягнецца за возам сена кудысь на бок ад свае гаспадаркі. І тут зусім зразумела ўся тая сялянская кабала за пятую ці дзесятую капу сена.

Той-жа малюнак мы ўгледзім і ў вырабу поля. Калі раней трудна было ўгледзіць воранае на зіму поле, то цяпер ужо паменшаецца позны папар і раней вясною барануецца поле воранае на зіму. Падругое, сталі ўжываць плуг (замест сахі), барану з жалезнымі зубамі і пружыноўкі. Можна было-б дадаць яшчэ некалкі прыкладаў творчай думкі селяніна ў сваёй працы, але і гэтага даволі, каб зрабіць агульны вывад.

Мы бачым, што кожнае здарэньне селянін тлумачыць па свойму. Яго думка працуе ў напрамку палепшаньня свае гаспадаркі. Ён працаваў так раней, працуе цяпер і будзе гэтак рабіць далей. Але каб практычная праца яго мела пад сабой моцны і правільны грунт, а таксама кіравалася і мела дапамогу з боку агрономічнай думкі, дык трэба як найлепш азнаёміцца з усім тым, што было ў сельскай гаспадарцы раней: як зьмяняліся формы; як расла і ўзмацнялася яна матэр'яльна; што было цэнным і што ўжо адкінута. Усё гэта разам зложыць гісторыю сельскай гаспадаркі Беларусі; яна паможа скарыстаць тое, што было здаровым і лепшым і на гэтым будаваць далейшую працу культурнага разьвітку сельскай гаспадаркі. Трэба раз на заўсёды адмовіцца ад усяго, што было зьвязана з самымі простымі формамі гаспадаркі і надварот—трэба як найхутчэй замацоўваць добрыя прыклады.

Загэтым, трэба лічыць, што ня толькі агроному і гісторыку патрэбна зьбіраць усе матэр'ялы, якія сьведчаць аб палажэньні сельскай гаспадаркі ў той ці іншы час. Было-б надта прыемна, каб у гэтым дапамагаў і кожны інтэлігэнт (настаўнік, вучань, студэнт і інш).

**Паўлюк Трус.**

# С.-Г. ХРОНІКА

## Першая ўсебеларуская выстаўка малочнай прамысловасьці.

25-га Кастрычніка г. г. у г. Менску закончылася Першая Ўсебеларуская Выстаўка Малочнай прамысловасьці. На выстаўцы было прадстаўлена 20 саўхозаў, 60 сялянскіх коопэрацыйных аб'яднаньняў. Турская с.-г. дасьледчая станцыя, Варанецкі с.-г. тэхнікум і два селяніна Менскай акругі—Алякевіч і Юрэвіч. Усяго экспанатаў малочных продуктаў было 123, а экспонентаў—84. Ня гледзечы на гэтакую невялікую колькасць экспанатаў выстаўка ўсё-ж такі дала ясны малюнак становішча нашай малочнай прамысловасьці. Сяляне Алякевіч і Юрэвіч лічацца культурнымі гаспадарамі, але экспанаты гэтых культурных гаспадароў, маючых нават сэпаратары, былі нагэтулькі нізкай якасьці, што прышлося выключыць з экспэртызы; загэтым, нельга чакаць лепшага і ад звычайнай сялянскай гаспадаркі. З другога боку экспанаты сялянскіх коопэрацыйных аб'яднаньняў былі шмат лепшымі і адзначаны дыплёмамі 2-й і 3-й ступені. Ня гледзечы на тое, што большасьць гэтых заводаў існуюць толькі 1—$1^1/_2$ гады, яны ўжо за гэты кароткі тэрмін сумелі больш менш абсталеваць свае малочныя заводы і вырабляць продукт першага сорту (Колхоз „Іскра“, Нова Беліцкі і Любоніцкі малочныя хаўрусы).

Па колькасьці вытворчасьці гэтыя аб'яднаньні перавышаюць нават некаторыя саўхозы. Так, напрыклад, Ліозьненскае Т-ва за няпоўны 1925 г. дало 1200 пуд галяндэрскага сыру, маючы прыпісаных кароў 590. Блізкія лічбы даюць і другія аб'яднаньні, чаго мы ня бачым у саўхозах. Саўхозы атрымалі большы лік і вышэйшай ступені адзначэньні (дыплёмы), што паказвае на лепшую якасьць іх экспанатаў у параўнаньні з экспанатамі сялянскіх аб'яднаньняў. Трэба толькі пашкадаваць, што саўхозы не пашыраюць сваёй вытворчасьці сялянскім малаком, ня гледзечы на ўсе магчымасьці. Такім чынам, выстаўка паставіла такія заданьні—

1. Сельска-гаспадарчая коопэрацыя павінна зьвярнуць асобую ўвагу на якасьць вытвараемых малочных продуктаў.

2. Разьвіцьцё малочнай справы ў сялянскай гаспадарцы магчыма толькі праз с.-г. коопэрацыю.

3. Саўхозы павінны пашырыць сваю вытворчасьць сялянскім малаком.

Усяго прэміравана 41 экспонент з 52 экспанатамі—саўхозаў 17, якія атрымалі 1 ступені—3 дыплёмы, 2 ступ.—8 і 3 ст.—13. Сялянскія аб'яднаньні першай ступені—1 дыплём, 2 ст.—5, і 3 ст.—21. Турская с.-г. станцыя—другой ступені 1 дыплём.

**Атабекянц.**

---

## Усебеларускі з'езд Саюзу Працзямлесу.

З 10 па 15 лістапада ў Менску адбудзецца Ўсебеларускі Зьезд Саюзу Працзямлесу. Зараз Саюз налічвае 18.200 асоб, ня лічачы да 500 лесарубаў, якія ўліваюцца ў Саюз. На зьездзе будуць прадстаўлены дэлегаты батракоў, с.-г. рабочых і ўсіх спэцыялістых сельскай і лясной

гаспадаркі. Адным з галоўных пытаньняў Зьезду, пасьля справаздачы аб дзейнасьці Саюзу і організацыйных пытаньняў, будзе абгаворваньне экономічнага становішча і ўмоў працы членаў Саюзу. Таксама у парадку дню стаіць даклад Наркамзему, Белсельтрэсту, Ляснога кіраўніцтва. І ў гэтых галінах народнай гаспадаркі З'езд мусіць выявіць сваю крытычную думку, як думку непасрэдных працаўнікоў у адбудове сельскай гаспадаркі.

К сучаснаму моманту ў кірунку аплаты працы Саюзу удалося вызначыць і замацаваць з гэтага году аплату лясьнікам да 20 руб., аб'езчыкам да 35 руб., с.-г. рабочым ад 16 да 20 руб.

Дзеля павышэньня кваліфікацыі с.-г. рабочых ужо існуе дзьве спэцыяльных школы і таксама дзьве школы для падгатаваньня лясных аб'ешчыкаў. Для спэціялістых будуць нарыхтоўвацца курсы.

**Лясная сэкцыя Саюзу Працзямлесу.**

Лясная сэкцыя з'організавалася ў сьнежні 1924 г.; у сакавіку 1925 г. адбылася першая Ўсебеларуская нарада лесаводаў. У сваёй працы сэкцыя старалася ўцягнуць у профэсыянальную працу ўсіх лясных спэцыялістых (зараз налічваецца членаў сэкцыі 302 (або 75 проц.) лясных спецыялістых.

Сэкцыя распачала вывучаць умовы працы лясных спэцыалістых. Ужо сабраны багаты анкетны матэр'ял. Вялікую ўвагу зьвяртае сэкцыя на болбшае акрэсьліваньне правоў спэцыялістых, вырашае розныя непаразуменьні з адміністрацыйнымі ўстановамі і інш. Зараз бяз згоды Сэкцыі не залічваецца і не звальняецца ніводны спэцыялісты. Сэкцыя таксама імкнецца палепшыць матэр'яльнае становішча лясных спэцыялістых. Зараз секцыя выпрацоўвае нормы працы для зямлябудаўнікоў, каб ім можна было перайці да зьдзельнае платы.

**У Наркамземе.**

С.-г. курсы для сялян. У наступную восень і зіму наважана правесьці агульных с.-г. курсаў для сялян тэрмінам да 1 месяцу—44; да 21 дня—47; да 14 дзён—31; ўсяго—122 курсаў.

**Спэцыяльныя курсы па сельскай гаспадарцы.**

Па жывёлагадоўлі будзе праведзена 30 курсаў (3 у раёне)—сіламі агрономаў і акруговых спэцыялістых. На курсах будуць практычныя заняткі па кармленьні кароў і перапрацоўцы малака. Тэрмін курсаў—21 дзень. *Па садоўніцтву і гародніцтву* будзе праведзена 20 курсаў (2 ў раёне). З гэтымі курсамі будзе зьвязана 10 курсаў па пчалярству. Тэрмін курсаў—14 дзён.

**Перападрыхтоўка агрономаў.**

Пры с.-г. Акадэміі (у Горках) зімой будуць заснованы 3-х месячныя курсы дзеля перападрыхтоўкі агрономаў БССР. Разьлічаны курсы на 40 асоб. Пасьля правядзеньня аднаго комплекту курсы будуць працягнуты дзеля новых 40 агрономаў.

**Паказальнае кармленьне кароў.**

Зімою будзе закладзена паказальнае кармленьне кароў у 180 пунктах з 920 каровамі. Для кожнай каровы прызначаецца 5 руб. на куплю дадатковага корму і 5 руб. на гаспадарку для прырыхтаваньня к вопыту.

**Выданьне Наркомзема.** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*

## АД РЭДАКЦЫІ

№№ 10—11 часопісі „ПЛУГ“

# ПАВЯЛІЧАНЫ

**і выходзіць адным сшыткам з тэй мэтай, каб далей кожны нумар часопісі выпускаць у пачатку месяца.**

Усім падпісчыкам „ПЛУГА“ з гэтым нумарам разсылаецца **бясплатны дадатак—„Школа крестьянского хозяйства“** С. П. Токмачева.

## ВЫДАНЬНІ НАРКАМЗЕМА БССР.

**МЕНСК, Савецкая № 71.**



**ШТЭЙНБЭРГ**
Практычнае гародніцтва
Стар. 138.—70 кап.

**В. ЖЫВАН**
Культура кармовых кораньплодаў.
Стар. 41.—16 кап.

**Л. КАЛІКІНСКІ**
Лубін і яго культура.
Стар. 39.—15 кап.

**ПАЧОПКА**
Як узгадаваць і даглядаць сад.
Стар. 72.—20 кап.

**Проф. КАСАТКИН.**
О почвах Белоруссии.
Стар. 18.—8 коп.

**Проф. ЛІСКУН.**
Агульнае жывёлаводзтва
Стар. 140.—80 кап.

**Проф. КАЛУГИН.**
Красный Белорусский скот.
Стар. 15.—5 коп.

**К. Д. ИВАНОВ.**
Руководство по производству лесных культур.
Стр. 63.—30 коп.

**И. П. СКОМОРОХОВ.**
Что должен знать крестьянин о лесе. Стр. 69.—25 к.

**Б. Э. ПЕТЕРСОН.**
Как организовать „Уголок леса“. Стр. 10.—6 к.

## ДРУКУЕЦЦА

**С. ЖДАНОВІЧ і А. ЯРАШЧУК.—„Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі“** (на падставе чыгуначных і водных перавозак).



**Заказы накіроўваць у Выдавецтва НКЗ—Менск, Савецкая, 71.**

# Прымаецца падпіска на 1926 год.

## СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЯ ЧАСОПІСЬ




**Месячнік, разьмера кнігі, з малюнкамі. Аб'ём каля 40 друк. аркушаў у год.**

Барацьба з с.-г. няпісьменнасьцю ёсьць галоўная задача нашых дзён.

**Часопіс** ставіць сваёй мэтай у навукова-популярнай форме знаёміць наша перадавое сялянства з працамі дасьледчых станцый, працаю вучастковых агрономаў і зямельных працаўнікоў, дасягненьнямі гаспадароў-практыкаў, навінамі агрономічнай навукі і г. д.

**Часопіс** будзе знаёміць з тымі спосабамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, калі бяз значных грашовых затрат можна павялічаць яе прыбытак.

Другое—**трэба найлепш выкарыстаць багаты сялянскі вопыт, яго трэба сабраць і паказаць на старонках с.-г. кнігі.**

**Часопіс** хоча дапамагчы ўтварэньню інстытута сялян-дасьледчыкаў і зьвязаць іх з практычнаю працай с.-г. гурткоў.

У часопісі прымаюць ўдзел профэсары, настаўнікі і навуковыя супрацоўнікі Беларускай с.-г. Акадэміі (**Салаўёў П. Ф., Вэйс Ю. А., Мельнік С. П., Найдзёнаў М., Лунгерзгаўзен Ф., Скандракоў С. В., Бурштэйн М., Серада І. М. Гарэцкі Г. Г., Кісьлякоў І. А., Лайкоў М. З., Рагавы П. П., Журык С., Берзін Г., Савельеў А., Калер А., Рэго Г., Дзямідовіч А., Ганчарык М.**, і інш.) Дасьледчыя станцыі, зямляпрацаўнікі, экономістыя і агрономы БССР (Зьм. **Прышчэпаў, Рэмізаў, Скамарохаў П., Рівінскі П., Цыганкоў А., Смоліч А., Міхайлаў А., Атабекянц І., Трахімаў Е.**) вучастковыя агрономы, сяляне-культурнікі, с.-г. школы і. г д.

## ПРОГРАМА ЧАСОПІСІ.

1. С.-г. экономія і зямельная політыка БССР. 2. Практычныя пытаньні палявой гаспадаркі. 3. Практычныя пытаньні жывёлагадоўлі і вэтэрынарыі. 4. Практычныя пытаньні пчалярства. 5. Практычныя пытаньні садоўніцтва і гародніцтва. 6. Практычныя пытаньні лясной гаспадаркі. 7. Земляўпарадкаваньне. 8. Коопэраваньне сельскай гаспадаркі. 9. Агрономічная дапамога вёсцы. 10. Праца дасьледчых с.-г. станцый, сялян-культурнікаў, навіны агрон. навукі. 11. Офіцыйны аддзел, с.-г. хроніка, абвесткі.

**Часопіс** можа быць карыснай перадавому сялянству, хатам-чытальням, с.-г. гурткам, школам, настаўнікам, організац. ЛКСМ, зямельным, агрономічным і коопэрацыйным працаўнікам раёну, саўхозам, комунам, арцелям і г. д.

**ПАДПІСЧЫКІ „ПЛУГА“, зрабіўшыя падпіску на 1926 г. адразу атрымаюць прэмію па выбары:** 1) „Практычнае гародніцтва“—проф. Штэйнберга, або 2) „Агульная жывёлагадоўля“—проф. Ліскуна, або 3) Сялянскую бібліотэчку на 70—80 кап., або 4) інш. кніг на 70—80 кап. (Выданьні НКЗ).

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

| | | |
|---|---|---|
| На год . . . . | 3 руб. — кап. | |
| На 6 месяцев . . | 1 „ 70 „ | |
| На 3 месяцы . . . | — руб. 80 кап. | |
| Паасобны нумар. . | — „ 30 „ | |

**Падпіска прымаецца ў Беларускім Дзяржаўным выдавецтве, на кожнай пошце і ў рэдакцыі часопісі.**

*АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая 71, НКЗ.*

ЦАНА АБВЕСТКІ: старонка — 50 рублёў, поўстаронкі — 30 рублёў.